2 лютага 2018 | № 3 (566)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Польская Каталонія Стар. 9

**4** У ПОШУКАХ АПАЗІЦЫЙНАЙ СТРАТЭГІІ

Выбары кіраўніцтвам апазіцыйных партый разглядаюцца як выключна тэхнічнае мерапрыемства. А як наконт змястоўнага боку выбарчай кампаніі?

**5** НОВЫ РАУНД ЗМАГАННЯ З «ДАРМАЕДАМІ»



**6** АДАМОВІЧ ЗАПРАШАЕ ПАЗЬНЯКА ВЯРНУЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ



У нас, беларускіх патрыётаў, ёсць магчымасць перавесці патэнцыйную энергію 2018 года як Года БНР у кінетычную з пастаяннай дынамікай росту

**10** ЯК АДНААСОБНІКІ АД ПАВІННАСЦЯЎ УХІЛЯЛІСЯ

У 1930-я гады ў СССР была створана шырокая сістэма натуральных павіннасцяў для сялян, прычым выконваць іх мусілі як аднаасобнікі, так і калгаснікі

# Місія невыканальная — 2

**Дэкрэт №1, які прыйшоў на замену «дармаедскаму» дэкрэту №3, — такі ж невыканальны**



Сяргей ПУЛЬША

Грамадзян больш не называюць «дармаедамі» і не патрабуюць ад іх грошай на «фінансаванне дзяржаўных выдаткаў». Дэкрэт №1, які замяніў сумнавядомы дэкрэт №3 пра лайдакоў, зараз называецца «Аб садзейнічанні занятасці насельніцтва».

Эксперты ўжо абсмакталі гэты дакумент ад самай шапкі. Першае адрозненне ад старога дэкрэта ў тым, што папярэдні дакумент быў скіраваны супраць «сацыяльных утрыманцаў». Зараз такой катэгорыі няма — ёсць «максімальнае садзейнічанне грамадзянам у працаўладкаванні» з боку дзяржаўных органаў і «рэсацыялізацыя асобаў, якія вядуць асацыяльны лад жыцця». Праўда, хібы і ў новага, і ў старога дакумента аднолькавыя. Як у дармаедскім дэкрэце не было дакладна прапісана, хто з'яўляецца «сацыяльным утрыманцам», так і зараз не вызначана, што такое «асацыяльны лад жыцця».

І таму пакуль не вядома, хто трапляе пад дзеянне дэкрэта №1: Савет Міністраў яшчэ павінен вызначыць парадак аднясення грамадзян да «асацыяльных элементаў». З логікі дэкрэта, які скіраваны на «садзейнічанне грамадзянам у працаўладкаванні», вынікае, што гэта беспрацоўны грамадзянін. А сыходзячы з тэксту дэкрэта — «працаздольны чалавек, не заняты ў эканоміцы».

Мы звыклі называць «асацыяльным элементам» алкаголіка дзядзьку Васю, які штовечар смокча «чарніла» і лаецца матам на дзіцячай пляцоўцы, дзе гуляе з дзецьмі цвярозніца і выдатная маці трох спінагрызаў цётка Галя. Але, згодна з дэкрэтам, дзядзька Вася, які працуе грузчыкам у бліжэйшай краме, — «сацыяльны элемент», бо мае працу і заняты ў эканоміцы. А цётка Галя нідзе не працуе, бо выхоўвае дзяцей. Яна, атрымліваецца, элемент асацыяльны. Так?

У дэкрэце прадугледжваецца, што з 1 студзеня 2019 года «працаздольныя грамадзяне, не занятыя ў эканоміцы, аплачваюць паслугі, вызначаныя Саветам Міністраў... па коштах, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных выдаткаў на іх аказанне». У дакуменце па-ранейшаму няма выняткаў, якія б тычыліся маці, якія знаходзяцца ў адпачынку па даглядзе за дзіцём, салдат тэрміновай службы, студэнтаў і гэтак далей. Ёсць толькі панятак грамадзян, якія «не занятыя ў эканоміцы», бо «трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю». Іх адпаведныя мясцовыя камісіі могуць вызваліць ад аплаты «эканамічна абгрунтаваных выдаткаў» поўнасцю альбо часткова.

Што такое «эканамічна абгрунтаваныя выдаткі», якія нясе дзяржава? Найперш на розум прыходзяць нібыта бясплатная ў нас медыцына і адукацыя. Але ж бясплатныя яны ў нас менавіта «нібыта»: за лекі, за дзіцячы садок, за спартовыя секцыі, за падручнікі ў школе (!!!) даводзіцца плаціць.

Дзяржава нібыта субсідуе транспарт. У нас з'явяцца асобныя, «дармаедскія» квіткі на аўтобус? Дзяржава ўтрымлівае пажарных, войска і міліцыю. Пажарныя перад тушэннем пажару будуць патрабаваць даведку аб працаўладкаванні, а дактары «хуткай дапамогі» — цікавіцца ў пацыента, дзе ён працуе?

Вернемся да дзядзькі Васі і цёткі Галі. Калі цётцы Галі надакучыць лаянка дзядзькі Васі, яна выкліча ўчастковага. Участковы скажа дзядзьку Васю: «Ай-яй-яй». А з цёткі Галі запатрабуе аплаціць «эканамічна абгрунтаваныя выдаткі» за выклік, бо яна «працаздольны грамадзянін, не заняты ў эканоміцы»?




Фота www.gazeta.ru

Мы нават не будзем казаць, што дзяржава, насамрэч, нічога не субсідуе і нічога не аплачвае. Усе яе грошы — гэта нашы грошы, сплочаныя намі ў выглядзе падаткаў. Гэта мы плацім і міліцыі, і пажарным, і дактарам — дзяржава гэтыя грошы толькі размяркоўвае. За што, дарэчы, бярэ неблагі працэнт дзеля ўтрымання чыноўнікаў — так званага «дзяржаўнага апарату».

Бадай, адзіная сфера, дзе можна нешта ўзяць з «працаздольнага грамадзяніна, не занятага ў эканоміцы», — гэта поўная аплата паслуг ЖКГ. Але і тут вялікая праблема.

Па-першае, камунальнікі і самі не ведаюць, колькі гэта — поўная аплата паслуг ЖКГ. Тройчы Лукашэнка патрабаваў прадставіць яму гэтыя лічбы — і тройчы мы іх не пабачылі. Па-другое, з 2019 года, калі павінна запрацаваць аплата «эканамічна абгрунтаваных паслуг», нам абяцаюць дайсці да стопрацэнтнай аплаты ЖКГ усімі, а не толькі «не занятымі ў эканоміцы». І, па-трэцяе, калі ў кватэры адзін працуе, а другі — не, як вылічыць гэтую «поўную аплату ЖКГ»?

**Дэкрэт ставіць крыж на «сацыяльнай дзяржаве» і разрывае сацыяльны кантракт паміж дзяржавай і насельніцтвам**

Дэкрэт №1, які прыйшоў на замену «дармаедскаму падатку», выклікае столькі ж пытанняў (а можа і больш), як і дэкрэт №3. А значыць, і працаваць ён будзе, як дэкрэт №3, — то бок, ніяк. Адзінае, у чым згодныя эксперты: гэты дакумент, як і дэкрэт пра дармаедаў, ставіць крыж на «сацыяльнай дзяржаве» і цалкам разрывае сацыяльны кантракт паміж дзяржавай і насельніцтвам. Што можа выклікаць непрадказальныя наступствы ў час маючых адбыцца парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў.

Дык чаму б дэкрэт не адмяніць увогуле?

**Пра гэта чытайце на 5 стар.**

ВЫБАРЫ–2018

### Гомель. Кандыдату ў дэпутаты ад АГП вынеслі папярэджанне

Гомельская гарадская выбарчая камісія на сваім пазачарговым пасяджэнні 30 студзеня разгледзела пытанне аб вынясенні папярэджання кандыдату ў дэпутаты Гомельскага гарсавета ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Канстанціну Жукоўскаму. На пасяджэнні камісіі прысутнічаў незалежны назіральнік кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Леанід Судаленка.

Старшыня выбарчай камісіі Віталь Атаманчук зачытаў заяву супрацоўніка абласнога ўпраўлення ДАІ Уладзіміра Кадзетава аб паклёпе і абразе, якія кандыдат Жукоўскі дапусціў у яго адрас падчас пікету каля будынку ДАІ. Маёр міліцыі прасіў выбарчую камісію за дапушчаныя парушэнні адмініць рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты.

Прысутны тут кандыдат Жукоўскі меў магчымасць весці прамую стрым-трансляцыю пасяджэння і растлумачыў, як указаны супрацоўнік ДАІ раней абвінавачціў яго ў здзяйсненні правапарушэнняў, а пратаколы пасля былі адменены ў судовым парадку. Такім чынам, на яго думку, міліцыянт перавысіў службовыя паўнамоцтвы, пра што ён і нагадваў падчас пікету.

Незалежны назіральнік Леанід Судаленка ў сваім выступе падкрэсліў, што паклёп і абраза з'яўляюцца правапарушэннем, а Жукоўскі да адміністрацыйнай адказнасці не прыцягнуты. Ён таксама нагадаў, што супрацоўнік ДАІ мае права абараніць свой гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю ў судовым парадку, прасіў не прымяніць да партыйнага кандыдата такую «вышэйшую меру», як выключэнне з перадвыбарчай гонкі.

Старшыня камісіі Віталь Атаманчук далучыўся да меркавання назіральніка і падкрэсліў: паводле наяўных дадзеных, 10 лютага Жукоўскі плануе правесці ў цэнтры горада сумесны з іншымі кандыдатамі перадвыбарчы пікет. Калі ён не зробіць высноў і паўторна парушыць артыкул 47 Выбарчага кодэкса, тады яго рэгістрацыя будзе анулявана. Пры галасаванні меркаванні чальцоў камісіі падзяліліся — з дзевяці прысутных 6 прагаласавалі за папярэджанне, тры — за адмену рэгістрацыі.

Кандыдат Кастусь Жукоўскі балатуецца і ў абласны Савет дэпутатаў. Выбары прызначаныя на 18 лютага.

### Орша. Першая публічная сустрэча дэмакратычнага кандыдата з выбаршчыкамі была сарваная

Ліст з раённай выбарчай камісіі аб немагчымасці правядзення сустрэчы з выбаршчыкамі кандыдат у дэпутаты Аршанскага райсавета ад Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Аляксандр Булаўка атрымаў толькі праз два дні пасля заяўленай ім даты мерапрыемства.

Пра інцыдэнт паведамляе назіральнік з Оршы Ігар Казмерчак. Ён высветліў, як развівалася сітуацыя, у выніку якой сустрэча апазіцыйнага кандыдата з грамадскасцю была сарваная.

Аляксандр Булаўка ў пятніцу, 26 студзеня, падаў заяву ў Аршанскую раённую выбарчую камісію з тым, каб у нядзелю, 28 студзеня, правесці сустрэчу ў памяшканні школы мастацтваў №1. З яго словаў, сакратарка камісіі прыняла заяву і сказала, што для правядзення сустрэчы больш нічога не патрабуецца: «Праводзьце».

На наступны дзень інфармацыя пра сустрэчу з'явілася на сайтах. Прычым планавалася, што яна будзе сумешчаная з прэзентацыяй некалькіх кніг беларускіх навукоўцаў з удзелам аўтараў (а на такія мерапрыемствы ў Оршы даўно немагчыма атрымаць памяшканні). 28 студзеня, калі людзі пачалі збірацца ў прызначаным месцы, да іх выйшаў дырэктар школы мастацтваў (у выходны дзень ён апынуўся на працы) і паведаміў, што яго пра сустрэчу з кандыдатам ніхто не папярэджваў, а школа ў нядзелю не працуе — таму сустрэчы не будзе.

У аўторак, 30 студзеня, Аляксандр Булаўка атрымаў ліст з раённай выбарчай камісіі. Цікава, што сам адказ камісіі датаваны 26 студзеня — тым днём, калі была пададзеная заява кандыдатам. На паштовым штампе стаіць дата 27 студзеня (за дзень да сустрэчы), а на штампе дастаўкі — 30 студзеня. У запозненым адказе камісіі напісана, што заяўленая сустрэча не можа праводзіцца з той прычыны, што школа не працуе ў нядзелю, і прапанавана выбраць нейкі іншы дзень.

**Паводле кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Што змянілася для кіроўцаў?

**З 31 студзеня ў Беларусі пачалі дзейнічаць змяненні і дапаўненні ў КоАП і ПВКоАП, якія датычацца адказнасці за парушэнне некаторых пунктаў правілаў дарожнага руху.**




Гаворка ідзе пра змены ў артыкулах, якія тычацца кіроўцаў і здзейсненых імі нязначных правапарушэнняў. Папраўкі ў другім чытанні ўхвалілі дэпутаты ў снежні мінулага года.

Так, змены ў арт. 18.17 КаАП (здзяйсненне ДТЗ) прадугледжваюць, што пры афармленні ДТЗ, у якім удзельніку не нанесеныя цялесныя пашкоджанні, а маюцца толькі механічныя пашкоджанні транспартных сродкаў або пашкоджанні маёмасці, кіроўца прыцягваецца да адказнасці за парушэнне канкрэтнага пункта (-аў) ПДР, які стаў прычынай здарэння. Калі ўдзельнікі ДТЗ складаюць «еўрапратакол» — яны не прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці.

Таксама кіроўцаў не будуць штрафаваць за забытыя дакументы (артыкул 18.18 КаАП). Раней за адсутнасць дакументаў штраф складаў ад 0,1 да 2 базавых велічынь. Зараз кіроўца можа быць прыцягнуты да адказнасці па ч. 5 арт. 18.22 КаАП (Іншыя парушэнні), якая прадугледжвае папярэджанне або штраф у памеры да 0,5 б.в.

Аднак у ДАІ папярэдзілі, што кіроўцам не варта гэтым злоўжываць. Працэдура праверкі наяўнасці дакументаў па адпаведных базах дадзеных прадугледжвае пэўныя часавыя затраты. Акрамя таго, у сістэме можа адсутнічаць інфармацыя аб дакументах, выдадзеных даўно. У гэтым выпадку спатрэбіцца дадатковая праверка.

За паўторнае (на працягу аднаго года) кіраванне транспартным сродкам асобай, якая не мае права кіравання, прадугледжаны таксама адміністрацыйны арышт на тэрмін да 15 сутак. Такая катэгорыя спраў будзе разглядацца судамі.

Адным з нававядзенняў стане скасаванне працэдуры канфіскацыі талона да вадзіцельскага пасведчання пры накладанні штрафу. Гэта выключыць неабходнасць наведвання падраздзялення ДАІ па месцы жыхарства з мэтай яго вяртання.

Тэрмін выплаты штрафу, рашэнне аб накладанні якога прымаецца на месцы, пашыраны з пяці дзён да аднаго месяца. Аплаціць яго можна з дапамогай сістэмы «Разлік» (АРІП) альбо на месцы з выкарыстаннем аплатнай карты праз мабільны тэрмінал. Аднак, у выпадку нявыплаты альбо пропуску дадзенага тэрміну, адміністрацыйнае спагнанне аўтаматычна павялічваецца на 2 базавыя велічыні.

**Паводле thinktanks.by**

# «Зімовыя бегавыя гульні» ў дапамогу дзецям-інвалідам

**У Беларусі з 9 па 11 лютага пройдуць «Зімовыя бегавыя гульні» — маштабныя прабежкі (у красоўках, на каньках, на лыжах і нават трэнажорах) у дапамогу дзецям з інваліднасцю.**

Кожны кіламетр, пераадолены на вуліцы або ў памяшканні, кампанія velcom перавядзе ў рублі і накіруе ў дзве маладзечанскія школы-інтэрнаты. Унесці свой бегавы ўклад можна будзе як унутры краіны, так і за яе межамі.

У першай зімовай ініцыятыве #velcombegom змогуць прыняць удзел беларусы ва ўсім свеце. Бегаць у дапамогу дзецям можна як на вуліцы, так і дома або ў спартзале на бегавой дарожцы. Сацыяльная акцыя заклікана дапамагчы дзецям з інваліднасцю і падтрымаць беларускіх спартоўцаў на XXIII Зімовых Алімпійскіх гульнях, якія таксама стартуюць 9 лютага. Акрамя таго, яна дазволіць стымуляваць фізічную актыўнасць у халодныя месяцы, што карысна для здароўя. Сваімі кіламетрамі могуць дзяліцца як прафесійныя атлеты, так і аматары бегу.

Усе ўдзельнікі будуць умоўна падзеленыя на дзве каманды. У першую ўвойдуць тыя, хто бегае на вуліцы, у парку ці лесе, а таксама лыжнікі і канькабежцы. Да другой каманды далучаць усіх, хто скарае дыстанцыі на бегавых дарожках, эліпсоідах і стэперах. Кожны кіламетр бегуна з каманды-пераможцы кампанія velcom перавядзе ў два рублі, іншай каманды — у рубель.

«Зімовыя бегавыя гульні» сімвалічна стартуюць аднachасова з Алімпіядай у Пхенчхане. Для ўдзелу трэба з 9 па 11 лютага прабегчы любым зручным спосабам, пасля чаго сфатаграфаваць вынік на экране трэнажора ці зафіксаваць яго з дапамогай фітнес-дадатка. Скрыншот дадатку або здымак экрана трэнажора з указаннем даты і кіламетражу неабходна выкласці ў сацыяльныя сеткі з хэштэгамі #velcombegom і #взале (для тых, хто бегае ў памяшканнях) або #velcombegom і #наулице (для тых, хто бегае на вуліцы). Уклад кожнага ўдзельніка будзе ўлічаны незалежна ад таго, колькі і дзе ён прабег.

«Зімовы бегавы праект такога фармату праводзіцца ўпершыню. Кожны жадаючы, нягледзячы на лютаўскае надвор'е, зможа сваім бегам падтрымаць нашых спартсменаў на Гульнях у Паўднёвай Карэі і дапамагчы дзецям з інваліднасцю. Упершыню ўнесці ўклад змогуць і тыя, хто бегае на лыжах і каньках, — падкрэсліў начальнік аддзела карпаратыўных камунікацый velcom Вячаслаў Смірноў. — Сацыяльная ініцыятыва таксама заклікаская стымуляваць і тых, хто зараз займаецца ў спартзале на бегавых трэнажорах, але марыць пра паўнавартасны забег. Мы хочам паказаць, што бегаць карысна ў любую пару года».

Сабраныя сродкі пойдуць Маладзечанскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школе-інтэрнату для дзяцей з парушэннямі зроку і Маладзечанскай санаторнай школе-інтэрнату для дзяцей, хворых на сколіёз. Грошы плануецца выдаткаваць на пераабсталяванне стадыёна і ўцягванне дзяцей з інваліднасцю ў паралімпійскі спорт.

**Паводле прэс-рэліза**

# Сотні людзей дапытваюцца па «Справе прафсаюзаў»

**Да «Справы прафсаюзаў» далучыліся новыя следчыя, дапытваюцца сотні людзей, звязаныя з прафсаюзнай дзейнасцю.**

Пра гэта паведаміў прафсаюзны дзеяч Сяргей Антусевіч. У пачатку жніўня 2017 года Дэпартамент фінансавых расследаванняў правёў вобшукі ў офісе прафсаюза РЭП, а таксама ў кватэрах кіраўнікоў арганізацыі — Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка.

Справа прыціхла, але следчыя далей працуюць, заўважае намеснік старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Сяргей Антусевіч.

Паводле якога, разваліцца справа можа толькі па ўласным загадзе Аляксандра Лукашэнкі:




Фота www.belprauda.org

**Старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч**

— І ні больш, не менш, таму што мы бачым, што новыя і новыя людзі падключаюцца да гэтай справы. Гэта паказвае, што ўлады не гатовы саступаць, прыслухоўвацца да таго, што было ўжо зроблена і з боку міжнароднай супольнасці, тое, што былі прынятыя заявы міжнароднымі прафсаюзнымі аб'яднаннямі. Для нас гэта не «справа Бяляцкага», гэта адназначна. Таму што тут зусім іншыя механізмы працуюць.

Кіраўнік прафсаюзу РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар арганізацыі Ігар Комлік па-ранейшаму застаюцца ў статусе падазраваных па крымінальнай справе аб фактах ухілення ад аплаты падаткаў у 2011 годзе.

**Улад Грынеўскі, Беларускае Радыё Рацыя**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нас тычыцца ўсё

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Легендарная беларуская «талерантнасць» і цярплівасць грунтуюцца, па вялікім рахунку, на абыякавасці. «Нас гэта не тычыцца». «Я палітыкай не цікаўлюся». «Гэта не мая справа». Такія выразы можна чуць бясконца.**



Фота www.ukrinform.ru

Насамрэч, свет змяніўся. Ён зараз глабальны — і значна больш глабальны, чым мы можам сабе ўявіць. Нас тычыцца ўсё. Няважна, на якой адлегласці адбываюцца падзеі ці прымаюцца рашэнні: сто метраў альбо тысячы кіламетраў. Яны ўсё роўна аказваюць на нас уплыў, які мы нават не ўяўляем.

На тыдні Міністэрства фінансаў ЗША прадставіла ў Кангрэсе так званы «крамлёўскі даклад». Дакумент быў пададзены з патрабаванняў закону «Аб супрацьдзеянні супернікам Амерыкі з дапамогай санкцый». У ім названыя імёны 114 чыноўнікаў і 96 бізнесоўцаў, якія маюць цесныя кантакты з кіраўніком Расіі Уладзімірам Пуціным. Верагодна, што гэтая папера стане падставай для распрацоўкі персанальных санкцый у дачыненні да Пуцінскіх чыноўнікаў і бізнесоўцаў.

Падавалася б, дзе Мінск, а дзе Вашынгтон і Масква? Аднак, не. У спіс Мінфіну ЗША трапілі зусім, як гаворыць Аляксандр Рыгоравіч, «не чужыя нам» асобы. Напрыклад, гэта асабісты сябра Лукашэнкі Міхаіл Гуцэрыеў, які, як кажуць, прывёз Баскава і Лепса на стары новы год да беларускага правадыра. Апошнім часам Гуцэрыеў заявіў сябе ў якасці інвестара ў лічбавых тэхналогіях. Яго інвестыцыйны фонд Larnabel Enterprises і кампанія VP Capital Віктара Пракапені абвясцілі пра сумесную рэалізацыю праектаў у галіне штучнага інтэлекту. Гуцэрыеў пабудаваў у Мінску гатэль «Рэнесанс», тэрмінал у аэрапорце і рэзідэнцыю каля Радашковічаў.

Трапілі ў гэты спіс і іншыя «сябры Сінявокай». Гэта Аляксей Мілер, кіраўнік «Газпрому», якому належыць «Газпром-Трансгаз Беларусь», што выконвае тэхнічныя функцыі ў перапампоўцы газу ў Заходнюю Еўропу. «Газпром» усё ніяк не дабудуе ў Мінску свой цэнтр, закладзены на месцы знесенага аўтавакзалу «Маскоўскі». Гэта Алена Батурына, што будуе ў Мінску кватэры — найбольшы аб'ём будоўляў жылля сканцэнтраваны ў мікрараёнах Лябяжы і Маскоўскі. Апроч таго, яе кампаніі па-за тэндэрнымі ўмовамі пастаўлялі пластыкавыя крэслы для стадыёну «Дынама» ў Мінску і лядовых палацаў па ўсёй Беларусі. Герман Грэф, кіраўнік расійскага «Сбербанка», якому належаць 98% статутнага капіталу ААТ «БПС-Сбербанк». Грэф збіраецца дабудаваць «псеўда-Кемпінскі» ля цырка ў сталіцы.

Яшчэ некаторыя — Уладзімір Патанін, Алег Дзерыпаска, Ігар Сечын, Сулейман Керымаў, — зараз непасрэднага дачынення да Беларусі не маюць, аднак раней мелі ў краіне свае праекты, якія да часу «адкладзеныя ў шуфляду». Той жа Керымаў да скандалу з «Уралкаліем» збіраўся нават прыватызаваць «Беларуськалій».

Фактычна, «крамлёўскі спіс» азначае праблемы ў гэтых бізнесоўцаў. Вялікія гэта праблемы ці малыя — мы пабачым у будучыні. Але гэтыя праблемы могуць адбіцца на праектах у Беларусі. Не дабудуюць ні «Газпром-цэнтр», ні «псеўда-Кемпінскі». Альбо, у самым прымітыўным прыкладзе: амерыканская сістэма Visa заблакуе карткі «БПС-Сбербанка» — і нашы працоўныя не атрымаюць заробак.

Падавалася, «крамлёўскі спіс» нас не тычыўся?

Дырэктар Цэнтра стратэгічных і знешнепалітычных даследаванняў Арсень Сівіцкі ў каментары «Салідарнасці» з гэтай нагоды заўважыў яшчэ адну цікавостку. За два дні да публікацыі спісу ЗША абвяшчалі пра намер увесці дадатковыя абмежаванні супраць абаронна-прамысловага комплексу Расіі. А між тым, каля 90% беларускага ВПК ідзе на экспарт у Расію: як дэталі, так і гатовыя камплектуючыя — напрыклад, шасі Мінскага завода колавых цягачоў альбо оптыка «БелОМО». Узнікнуць праблемы ў Расіі — спыніцца МЗКТ. Хаця дзе Вашынгтон, а дзе Мінск?

А некаторыя праблемы мы ствараем сабе самі. І вылазяць яны досыць нечакана.

Памятаеце, як айчынныя чыноўнікі ўвялі абавязковую сертыфікацыю тавараў ЕАЭС для беларускіх прадпрымальнікаў? Як страйкавалі рынкі, як іпэшнікі скардзіліся, што ні ў каго такой сістэмы няма, і на Чаркізаўскім рынку ім не могуць выдаць адпаведныя сертыфікаты? Як усе доўга пісалі пра гэтае незразумелае «ноў-хаў», а зрабіць з гэтым так нічога і не маглі?

Дык вось, скіраваная супраць ІП палітыка вылезла нам бокам адтуль, адкуль не чакалі. Пад тую ж сертыфікацыю трапілі расійскія кампаніі. Саюз удзельнікаў спажывецкага рынку (СУПР), Рыбны саюз, Нацыянальная мясная асацыяцыя Расіі, «Саюзмалако», «Русбрэнд» і іншыя нават паскардзіліся прэм'еру Расіі Дзмітрыю Мядзведзеву. Яны пішуць, што абавязковая ў Беларусі працэдура дзяржаўнай санітарна-гігіенічнай экспертызы імпартнай прадукцыі закранае прыкладна 150 таварных пазіцый. І Мінск не дапускае «неэкспертызаваныя» тавары на свой рынак.

Беларусь адмаўляецца адмяняць абавязковую экспертызу нават па патрабаванні Еўразійскай эканамічнай камісіі, чым, па меркаванні прамысловых саюзаў, падрывае асноўныя прынцыпы развіцця рынку ЕАЭС. Расійскія вытворцы лічаць, што ў адказ Расіі таксама варта вывучыць магчымасць усталявання дадатковых гандлёвых абмежаванняў.

А калі Сінявокая, каб пазбегнуць тых абмежаванняў, адменіць сертыфікацыю для расіян? Гэта азначае, што яна пяць гадоў займалася глупствам у дачыненні да айчынных гандляроў. Давядзецца зноў ламаць сістэму, дазваляць іпэшнікам працаваць без сертыфікатаў, якія беспадстаўна, як высвятляецца, патрабавалі. Што рабіць з канфіскаванай «несертыфікаванай» прадукцыяй? Якія іскі чыноўнікі атрымаюць за тую беспадстаўную, як высвятляецца, канфіскацыю? Хто за гэтую шкоду, нанесеную айчыннаму дробнаму бізнесу, будзе адказваць і хто будзе яе кампенсаваць?

І яшчэ цікавая замежная навіна. Bloomberg склаў штогадовы рэйтынг інавацыйных эканомік свету — Innovation Index. Ён улічвае сем крытэраў, сярод якіх колькасць тэхналагічных публічных кампаній, навуковы патэнцыял і гэтак далей. У яго патрапілі ўсе суседнія з Беларуссю краіны. Польшча заняла ў спісе 21 месца, Расія — 25, Літва — 34, Латвія — 40, Украіна — 46 месца. А вось Беларусі ў рэйтынгу няма. Няма — і ўсё тут.

Значыць, нешта не так у нас з «IT-краінай». І не скажаш: «Дзе мы, а дзе Bloomberg».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Як паведаміў актывіст Вячаслаў Касінераў, які лістуецца з Дзмітрыем, Паліенка не атрымлівае адпраўленыя яму паштоўкі.**

«Дзмітрый паведамляе, што цяпер асаблівага ціску з боку адміністрацыі калоніі на яго няма. Але ёсць іншая праблема. Яшчэ ў мінулым годзе мы заклікалі ўсіх, хто жадае падтрымаць Дзмітрыя маральна, пісаць яму лісты. Дык вось, дакладна вядома, што з тых 150 паштовак, што былі дасланыя Паліенку, ні адна не дайшла», — распавёў Касінераў сайту palitviazni.info.

Са слоў Касінерава, лісты даходзяць вельмі дрэнна, і асабіста ён у апошні час вымушаны адпраўляць заказную карэспандэнцыю. «Такая ж сітуацыя і ў хлопцаў, якія адбываюць пакаранне па «справе антыфашыстаў». Напрыклад, месяцамі пошта маўчыць, а пасля мы пішам заказны ліст — і яго аддаюць вязням. Мабыць, у такім выпадку адміністрацыя разумее, што могуць пачацца скаргі», — кажа Касінераў.

У 2016 годзе Дзмітрый Паліенка быў прызнаны вінаватым у гвалце ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў — нібыта, ён напаў на міліцыянта падчас акцыі раварыстаў «Крытычная маса». Ён быў асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады. У красавіку 2017 года суд Заводскага раёна разгледзеў прадстаўленне органа, які кантралюе паводзіны асуджанага, і адтэрміноўку выканання пакарання адмяніў — за тое, што Паліенка быў заўважаны ў абароне Курапатаў. Без права на абскарджанне актывіста накіравалі ў выпраўленчую калонію ў Бабруйск.

Праваабаронцы лічаць Паліенку палітвязнем.



## Алег Волчак

**Беларускі дом у Варшаве высунуў кіраўніка праваабарончага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» (зарэгістраваны ва Украіне) на прэмію «Front Line Defenders — 2018».**

У прадстаўленні адзначаецца, што цэнтр «Прававая дапамога насельніцтву» апынуўся на лязе масавых пратэстаў «недармаедаў» у лютым-сакавіку 2017 года. Юрысты цэнтра аказвалі бясплатную юрыдычную дапамогу грамадзянам — асабліва актыўна ў рэгіёнах, дзе прававое бязмежжа найбольш моцнае.

Ужо 19 гадоў Алег Волчак паслядоўна дамагаецца аб'ектыўнага расследавання фактаў гвалтоўных знікненняў у Беларусі. Хоць тэма паступова сыходзіць з міжнароднай арэны на фоне пацяплення адносін з Захадам, аднак праваабаронца не дазваляе канчаткова пахаваць праблему.

Арганізацыя «Front Line Defenders» была заснаваная ў Дубліне ў 2001 годзе з мэтай абароны праваабаронцаў, якія знаходзяцца ў небяспецы. Яна мае спецыяльны кансультатыўны статус у Эканамічным і Сацыяльным Савеце ААН і з'яўляецца адной з арганізацый-партнёраў Савета Еўропы. Штогадовая прэмія «Front Line Defenders» была заснаваная ў 2005 годзе, каб адзначыць працу праваабаронцы, які негвалтоўнымі метадамі, мужна і часта з рызыкай для ўласнага жыцця ўносіць выбітны ўнёсак у прасоўванне і абарону правоў іншых людзей.

## Сяржук Доўгушаў

**Як высвятляецца, «чорныя спісы» музыкаў дагэтуль існуюць на рэгіянальным узроўні. У Оршы трэці раз забаранілі прэзентацыю альбома «Дарогі» Сяржука Доўгушава і Аляксандра Ясінскага.**



Пра канцэрт дамаўляўся нават дырэктар Белдзяржфілармоніі. Але спачатку выканаўцаў не прыняў Гарадскі цэнтр культуры. Пасля няўдачы з ГЦК удалося дамовіцца з дзіцячай школай мастацтваў. Некалькі дзён усё было добра, аднак увечары 30 студзеня са школы патэлефанавалі і заявілі, што канцэрт не зможа адбыцца. Тлумачыць прычыны дырэктарка школы адмовілася. Прымаць вядомых артыстаў адмовілася Дзіцячая школа мастацтваў № 2.

Доўгушаў называе ўжо трэцюю адмену канцэрту здзекам. Доўгушаў і Ясінскі плануюць выступіць у Баранавічах, Брэсце, Мінску, Віцебску і Магілёве. Нідзе канцэртаў не адмянялі. Як падкрэслівае спявак, Орша — адзіны горад Беларусі, дзе ўзнікаюць праблемы з выступамі.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У пошуках апазіцыйнай стратэгіі

**«Спачатку было слова», таму што кожнай справе папярэднічаюць слова і думка.**

Студзень-люты — найлепшы час для падвядзення вынікаў. Эканамічная статыстыка даступная. Нішто не перашкаджае зайсці на сайт Белстата ды прааналізаваць і параўнаць тое, што атрымалася па факце, з тым, што абяцала беларусам «дзяржава для народа». Здавалася б, на такога кшталту намаганні «псеўдааналітыкаў» павінен быць попыт з боку палітычных актывістаў «пятай калоны».

Аднак усе звароты аўтара «Азбука паліталогіі» ў партыйныя офісы на тэму падвядзення вынікаў скончыліся НІЧЫМ. Асноўная прычына — НЕ ДА ТАГО. Пра якія вынікі гаворка, калі выбары на носе!

Цікавая адгаворка. Атрымліваецца, што выбары кіраўніцтвам апазіцыйных партый разглядаюцца ў якасці выключна тэхнічнага мерапрыемства (вылучэнне кандыдатаў, збор подпісаў і іншае). А як наконт змястоўнага боку выбарчай кампаніі?

У маім архіве ў тэчцы «Апазіцыя» маецца файл «Даносы». Абмяжуюся дзвюма цытатамі, з якіх я свядома выдаліў прозвішчы аўтараў. «Партыя правяла кампанію байкоту зыходзячы не з кан'юнктурных меркаванняў — мы лічылі правільным такія дзеянні. Байкот — гэта праўда, якую мы спрабавалі **данесці** (вылучана. — С.Н.) да беларускага народа, і стратэгія, якую мы павінны былі ажыццяўляць у існуючых беларускіх умовах». «Крытэрыі эфектыўнасці вызначаюцца толькі рэальнай працай з выбаршчыкамі, якую можна вымераць колькасцю **данясенняў** (вылучана. — С.Н.) да выбаршчыка ўлётак, асабістых кантактаў, колькасцю назіральнікаў, якія адсочваюць выбарчы працэс».

Як тут не пагадзіцца з расійскім палітолагам Станіславам Бялкоўскім, які сцвярджае, што праўда — гэта версія, якая задавальняе.

Выбарчыя кампаніі даюць дадатковыя магчымасці для данясення партыямі сваіх версіяў праўды. Іх можна даносіць як байкатуючы выбары, так і прымаючы ў іх самы актыўны ўдзел. Якую тэхналогію з дзвюх узаемавыключальных варта прызнаць найбольш эфектыўнай, пытанне другаснае. Бясспрэчна, усялякае дзеянне — гэта добра і карысна, у тым ліку і «даносы праўды», якія ажыццяўляюцца пры дапамозе ўлётак. Але ці істотна, што напісана ва ўлётках?

Заходжу на сайты АГП і Партыі БНФ. Інфармацыі па пытаннях, якія мяне цікавіць, адшукаць не атрымалася. Таму нішто не перашкаджае мне пафантазіраваць на тэму стратэгіі апазіцыі на сучасным этапе развіцця «беларускай мадэлі».




## Тры напрамкі

Згодна з першым вершам Евангелля паводле Яна, «напачатку было Слова». З гэтым не паспрачаешся. Кожнай справе папярэднічаюць слова і думка. У прыватнасці, Французскай рэвалюцыі папярэднічаў так званы «час клубаў». Без масавых дыскусій у рэвалюцыі не было б шанцаў стаць вялікай.

Аднак урок, які французы далі свету ў канцы XVIII стагоддзя, намі не засвоены. Тут магчымыя два тлумачэнні: або да стадыі асэнсавання мы яшчэ не дараслі, або гэтую стадыю мы ўжо праскочылі як непатрэбную.

Любая апазіцыйная стратэгія абмяжоўваецца аб'ектыўнымі рамкамі, якія задаюцца базавымі характарыстыкамі грамадства і ўлады.

Беларускае грамадства, як я ўжо неаднаразова адзначаў, можа знаходзіцца як у стане апатыі, так і ў стане палітычнага ўзбуджэння. Першы стан — асноўны. У XX стагоддзі грамадства ўзбуджалася толькі два разы — у 1917 годзе і на піку перабудовы Гарбачова. Двум станам грамадства павінны адпавядаць дзве стратэгіі апазіцыі. Чытайце старазапаветнага «Эклезіяста», бо лепей і не скажаш: «Усяму свой час, і час усякай рэчы пад небам: час нараджацца і час паміраць; час насаджаць і час збіраць пасаджанае; <...> час раскідаць камяні і час збіраць камяні; <...> час вайне і час міру...» Ад сябе дадам: час пазітыўнай і час негатыўнай павесткі.

Апазіцыйная партыя ў Беларусі можа быць толькі рэвалюцыйнай. Не для таго адзіны палітык (АП) у 1994 годзе перамог на дэмакратычных выбарах, каб «насуперак волі народа гэту ўладу аддаць купцы шарлатанаў». А іншых апанентаў — АП у гэтым перакананы! — у яго няма і быць не можа.

Аднак, як тлумачыць палітолаг Уладзімір Пастухоў, рэвалюцыйная партыя — гэта не тая партыя, якая рыхтуе рэвалюцыю, а тая партыя, якая рыхтуецца да рэвалюцыі. «Зрабіць» рэвалюцыю намаганнямі апазіцыі немагчыма. Рэвалюцыю робіць сама ўлада. Тым, хто ў гэтым сумняваецца, нагадаю словы з інтэрв'ю АП ад 26 сакавіка 2014 года: «Як ні круці, тое, што адбылося на Майдане, — віна толькі дзеючай тады ўлады. А потым ужо амерыканцы, дарадцы, Усход і іншыя — гэта ўсё было потым. Гэта адбываецца там, дзе ёсць для гэтага глеба. А гэту глебу стварыла ўлада Украіны».

Пакуль рэвалюцыя не пачалася (пакуль улада не стварыла рэвалюцыйную сітуацыю), асноўныя задачы рэвалюцыйнай партыі з'яўляюцца непалітычнымі, бо не можа быць палітычных задач там, дзе няма палітыкі.

Непалітычныя задачы рэвалюцыйнай партыі (паводле Пастухова) зводзяцца да трох асноўных напрамкаў: дыскрэдытацыя рэжыму, дыялог з масамі (па тых пытаннях, якія цікавяць масы, а не рэвалюцыйную партыю) і фарміраванне рэвалюцыйнага ядра (па сутнасці, ствалавых клетак будучай новай улады).

## Добра, у каго запас на ліхі час

А цяпер звернемся да табліцы. Пасля «ліхіх дзевяностых» на працягу трох пяцігодак рост рэальных наяўных грашовых даходаў беларусаў быў двухзначным. Але да 2011 года «Беларуская мадэль» свой рэсурс вычарпала, што і зафіксавала статыстыка. Апанентам АП такім падарункам грэх было б не скарыстацца. Бо лепшага фону для дыскрэдытацыі рэжыму і не прыдумаць. Гэта вам не заможныя «нулявыя» гады. І чым далей будзе дэградаваць эканоміка, тым прасцей стане апазіцыйным палітыкам весці дыялог з масамі і рэкрутаваць у сваё шэрагі неафітаў.

У спіс задач рэвалюцыйнай партыі не ўвайшоў удзел у выбарах. З гэтага не вынікае, што выбары трэба байкатаваць. Наадварот, варта ўдзельнічаць самым актыўным чынам, бо выбары — выдатны інструмент для дыскрэдытацыі ўлады.

Тут я ў чарговы раз не магу ўтрымацца ад цытавання: «Наша апазіцыя — гэта эпігоны пазаўчарашняга еўрапейскага лібералізму. У гэтым сэнсе гэта іх самая вялікая праблема. Яны паўтараюць абсалютна правільныя лозунгі, я падзяляю іх мэты, але яны не робяць вельмі важныя рэчы — яны не спрабуюць прадставіць праблемы большай часткі насельніцтва» (Леў Гудкоў, дырэктар Лявада-цэнтра).

Беларускае выбарчае заканадаўства не ідэальнае, але чыя гэта праблема? Сёння нічыя. Пакуль рэвалюцыя не пачалася, насельніцтва не цікавіця ні якасцю заканадаўства, ні партыямі, ні іх праграмамі. Таму няма сэнсу разважаць пра каштоўнасці свабоды і дэмакратыі.

Рэвалюцыйная партыя ў адсутнасць рэвалюцыі павінна ўмець быць «нерэвалюцыйнай» і займацца не тым, што цікава ёй, а тым, што цікава грамадству. Адзін прыклад. У канцы 2016 года АП «даручыў у наступным годзе выйсці на адзнаку ў $ 500» сярэдняй зарплаты. І які вынік? У снежні яна склала 995,3 руб. — гэта значыць, што даручэнне выкананае: АП сказаў — АП зрабіў.

Апалітычных беларусаў такая інфармацыя, безумоўна, парадуе. А вось тут самы час растлумачыць, што за кошт прэмій па выніках года ў Беларусі заработная плата ў снежні адносна лістапада ўзрасла прыблізна на 11%, каб потым прыкладна на такі ж працэнт знізіцца ў студзені.

Цяперашні снежань апынуўся рэкордным. Месячная прыбаўка склала 158,4 руб. (+18,9% да лістапада). А што чыноўнікам рабіць? Мае «Азбукі паліталогіі» яны не чытаюць, але пра тое, што АП запатрабаваў «$ 500 — кроў з носу ў гэтым годзе», не могуць не ведаць.

Аднак — і тут АП абсалютна мае рацыю — для павышэння заработнай платы неабходны рост прадукцыйнасці працы. І што ж мы маем па факце? Гадавыя дадзеныя па змене прадукцыйнасці працы па ВУП яшчэ не апублікаваныя, але за студзень-лістапад яе рост склаў 3,6%. Скажам шчыра, не вельмі ўражвае.

І тут варта было б нагадаць выбаршчыкам пра 2011 год з яго трохразовай дэвальвацыяй рубля і трохзначнай інфляцыяй, а заадно і пра тое, па чыёй канкрэтна віне такое стала магчыма ва ўмовах спрыяльнай знешняй кан'юнктуры.

Дарэчы, многія пра магчымыя наступствы снежаньскага атракцыёну «нечуваная шчодрасці» здагадаліся самастойна. Дваццаць тры месяцы беларусы застаюцца чыстымі прадаўцамі наяўнай валюты, але ў снежні перавышэнне продажу над пакупкамі склала ўсяго $ 22 мільёны пры сярэднегадавой «норме» ў $ 200 мільёнаў.

Добра, у каго запас на ліхі час. Жыццё прывучыла беларусаў рабіць запасы ў цвёрдай валюце, а не ў рублях.

**СЯРЭДНЕГАДАВЫ ПРЫРОСТ (ЗНІЖЭННЕ) САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫХ ПАКАЗЧЫКАЎ, %**

| Паказчык | 1991–1995 | 1996–2000 | 2001–2005 | 2006–2010 | 2011–2015 | 2016–2017 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Валавы ўнутраны прадукт | -8,2 | 6,3 | 7,5 | 7,3 | 1,2 | -0,1 |
| Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва | -10,3 | 14,0 | 12,0 | 11,9 | 6,3 | -5,4* |

* 2017 год — дадзеныя за студзень-лістапад

# Новы раунд змагання з «дармаедамі»

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Як вядома, Лукашэнка падпісаў дэкрэт №1 аб садзейнічанні занятасці. Гэта новая рэдакцыя сумна знакамітага дэкрэта №3 аб дармаедах. Самы скандальны заканадаўчы акт апошніх гадоў мае сваю гісторыю.**

Сама дэбютная ідэя змагання з дармаедамі паўстала 3–4 гады таму. У яе аснове ляжыць комплекс ментальных, палітычных, сацыяльна-эканамічных прычын.

У 2017 годзе, ужо пасля акцый пратэсту па ўсёй краіне, Лукашэнка, тлумачачы неабходнасць такога дэкрэту, казаў, што гэта дакумент не эканамічны, а ідэалагічны, маральны.

Доўгі час адным з важных афіцыёзных прапагандысцкіх клішэ, якія нібыта даказвалі перавагу беларускай мадэлі сацыяльнай дзяржавы, была тэза аб нізкім беспрацоўі ў Беларусі. Маўляў, на фоне краін Еўропы мы ў гэтым плане выглядаем проста квітнеючым аазісам. Афіцыйна ў верасні 2017 года ў Беларусі налічвалася ўсяго 30 тысяч беспрацоўных. Мізэр. Але А. Лукашэнка, абгрунтоўваючы неабходнасць змагацца з дармаедамі, незнарок выдаў страшную дзяржаўную тайну. Аказваецца, усе гэтыя казкі пра нізкі ўзровень беспрацоўя — звычайная прапагандысцкая лухта. На самай справе, не працуе ў нас 500 тысяч чалавек.

Таму тут паўстае першая прычына з'яўлення дэкрэту аб дармаедах. Аўтарытарная дзяржава імкнецца кантраляваць у краіне ўсё. І яна адчувае дыскамфорт, калі нейкая частка насельніцтва выпадае з-пад гэтага кантролю, існуе аўтаномна. «Чым яны займаюцца? За чый кошт жывуць?» — пытаўся А. Лукашэнка на нарадзе. Непарадак. Таму трэба навесці парадак.

Выглядае, што дэкрэт аб дармаедах выцякае з самой сутнасці патэрналіцкай дзяржавы, якая існуе ў Беларусі. Звярніце ўвагу, як вытанчана быў названы прэзідэнцкі дэкрэт № 3 — «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства». Сама гэта з'ява — сацыяльнае ўтрыманства — уласцівая толькі патэрналіцкай дзяржаве, іманентна выцякае з яе ўнутранай прыроды.

Бо ў Беларусі доля занятых у эканоміцы ў параўнанні з іншымі краінамі даволі высокая — 82%. У суседняй Польшчы, напрыклад, гэты паказчык складае 68%.

Але справа ў тым, што ў краінах з рынкавай эканомікай зусім іншая, значна меншая роля дзяржавы ў пераразмеркаванні рэсурсаў. Там улада дае грамадзянам магчымасць самім клапаціцца пра сябе. Дзяржава не кантралюе, хто працуе, а хто не. Але затое там чалавек, напрыклад, павінен сам клапаціцца пра сваю медыцынскую страхоўку (часта пры ўдзеле дзяржавы), цалкам аплачваць камунальныя паслугі, грамадскі транспарт і іншае.

У Беларусі ўсё гэта ў значна большай ступені з'яўляецца прэрагатывай дзяржаўных інстытутаў. Ідэалагічны канструкт патэрналіцкай дзяржавы грунтуецца на эгалітарысцкай канцэпцыі сацыяльнай справядлівасці, згодна з якой усе павінны працаваць на карысць грамадства (на самай справе, дзяржавы), а ўжо ўлады ад імя народа потым аддзячаць, падзеляць атрыманыя даброты паміж падданымі. Калі ўлада вялікай лыжкай раздае, дзеліць на ўсіх баланду, то таму яна лічыць, што мае права патрабаваць, каб кожны грамадзянін добрасумленна зарабляў сваю пайку. Хто гэтага не робіць — той сацыяльны ўтрыманец, чужы элемент у патэрналіцкай сістэме, да якога трэба прымяняць меры прымусу. І сацыяльная дзяржава натуральным чынам ператвараецца ў паліцэйскую сацыяльную дзяржаву.

Акрамя таго, ва ўсёй гэтай кампаніі існаваў і вялікі элемент папулізму. А. Лукашэнка быў упэўнены, што атрымае падтрымку свайго электарату. Ён лічыў, што ідэя змагання з дармаедамі папулярная сярод народа. Кіраўнік дзяржавы імкнуўся пад выглядам аднаўлення справядлівасці патураць архаічным інстынктам «простых людзей», перакананых у тым, што гвалт і жорсткасць з'яўляюцца ўніверсальным сродкам вырашэння ўсіх праблем.

Былі і выключна эканамічныя прычыны. Рэсурсы беларускай сацыяльнай мадэлі заканчваюцца, таму трэба, па-першае, скараціць колькасць спажыўцоў дзяржаўнага пірага за кошт «дармаедаў». Па-другое, трэба знайсці новыя крыніцы для абмялеўшага бюджэту, за кошт абкладвання новым падаткам так званых «дармаедаў».

Яшчэ адзін чыннік. Справа ў тым, што пасля фінансавага крызісу ў 2011 годзе, рэзкага падзення заробкаў, дзясяткі тысяч беларусаў з'ехалі на заробкі ў Расію. З прычыны гэтага ў Беларусі абвастрылася кадравая праблема, паўстаў дэфіцыт рабочых рук, з'явілася шмат вакантных месцаў у будаўніцтве, медыцыне, іншых галінах. Тады і нарадзілася ідэя ўжыць пазаэканамічны прымус, прымусіць працаваць непрацуючых грамадзян, каб запоўніць вакансіі.

Яшчэ на нарадзе 20 кастрычніка 2014 года, прысвечанай барацьбе з дармаедствам, А. Лукашэнка казаў: «Любымі спосабамі, якія мы ведаем і ўмеем рабіць, трэба прымусіць гэтых людзей працаваць! Да 1 студзеня прыняць меры, каб усе працавалі, прымусіць усіх працаваць!» МУС выступіла з ініцыятывай прыняць заканадаўчы акт, які дазваляе прыцягваць да прымусовага працаўладкавання непрацуючых грамадзян. І прэзідэнт падтрымаў гэтую прапанову.




Малюнак www.cont.ws

Але з таго часу сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі радыкальна змянілася. Краіна ўступіла ў поўнамаштабны эканамічны крызіс. Яму спадарожнічала падзенне вытворчасці, банкруцтвы камерцыйных фірмаў, перапынкі ў працы дзяржпрадпрыемстваў, значныя скарачэнні работнікаў. Беларусь апынулася на парозе масавага беспрацоўя. І ў гэтых умовах прымус людзей да працы выглядаў нейкай дзіўнай экзотыкай, здзекам са здаровага сэнсу. Тое, што было актуальным учора, перастала быць такім сёння.

Таму не выпадкова дэкрэт так доўга рыхтаваўся, перапрацоўваўся. Бо давялося на хаду мяняць саму канцэпцыю гэтай кампаніі. І сэнс дэкрэту №3 складаецца не ў тым, каб прымусіць непрацуючых грамадзян працаваць, а зусім у іншым. Быў уведзены падатак за дармаедства. У дэкрэце ён быў названы «зборам». Улады вырашылі, што калі нельга людзей прымусіць да працы, то можна садраць з іх грошы па прынцыпе «з паршывай авечкі хоць поўсці клок». Маўляў, няхай адкупляюцца за права не працаваць: заплаці падаткі — і дармаедствуй спакойна.

Гэта такая своеасаблівая індульгенцыя. Нагадаю, што ў сярэднявеччы каталіцкая царква практыкавала продаж індульгенцый, якія, як абвяшчалася, вызвалялі ад часовай кары за грахі. То-бок грашыць можна, але за грошы.

Але як толькі дэкрэт пачаў рэалізоўвацца, грамадства ўспрыняло яго ў штыкі. Па ўсёй краіне пачаліся акцыі пратэсту. За адмену скандальнага дэкрэту падпісалася за месяц больш за 80 тысяч чалавек. З 470 тысяч чалавек, якім накіравалі паведамленне з патрабаваннем выплаціць збор, заплаціла толькі 10%.

**Лукашэнка быў упэўнены, што атрымае падтрымку свайго электарату. Ён лічыў, што ідэя змагання з дармаедамі папулярная сярод народа. І імкнуўся пад выглядам аднаўлення справядлівасці патураць архаічным інстынктам людзей, перакананых, што гвалт і жорсткасць — універсальныя сродкі вырашэння праблем**

І вось улада замест таго, каб дапамагчы людзям, якія засталіся без працы, трапілі ў бяду (напрыклад, павысіць дапамогу па беспрацоўі), стала караць іх штрафамі. Гэты здзек са здаровага сэнсу закрануў у першую чаргу сацыяльныя нізы правінцыі, якія з'яўляюцца галоўнай сацыяльнай апорай А. Лукашэнкі.

Таму тыя дзеянні ўладаў выклікалі ў грамадстве адчуванне жахлівай несправядлівасці. Адбылася не проста дыскрэдытацыя ўлады. Яна пачала губляць статус маральнага аўтарытэту.

Самым разумным выхадам з гэтай тупіковай сітуацыі была б адмена гэтага злашчаснага дэкрэта. Але тут ужо ўзнікае праблема не толькі палітычная, а больш нават псіхалагічная. Адмена рэзананснага дэкрэта стала б для А. Лукашэнкі прызнаннем сваёй уласнай памылкі. Тут ужо не зваліш усё на чыноўнікаў, якія, як звычайна, нешта «нахамуталі». Бо ўсе памятаюць, хто быў ініцыятарам і галоўным публічным абаронцам гэтай ідэі. Але, як вядома, правадыр не можа памыляцца. Акрамя таго, адмена дэкрэта пад ціскам акцый пратэсту, якія арганізавала апазіцыя, стала б прызнаннем уласнай палітычнай паразы і перамогі апанентаў.

Таму з'явіўся новы варыянт гэтага дэкрэту. Цяпер «дармаеды» павінны плаціць не ўніфікаваны падатак («збор»), а кампенсаваць дзяржаве затраты за нейкія паслугі.

У гэтым новым варыянце дэкрэту застаюцца тыя ж хібы, што і ў папярэдняй версіі. Па-першае, ва ўсім свеце дзяржава дапамагае беспрацоўным. І толькі ў нашай «сацыяльнай дзяржаве» беспрацоўных караюць штрафамі.

Па-другое, каб вызначыць сапраўдных дармаедаў, будуць створаныя адмысловыя камісіі, якія павінны ўвесь час маніторыць сітуацыю з беспрацоўнымі. Вялізная колькасць дзяржаўных службоўцаў будзе адарваная ад сваіх абавязкаў і прымушана займацца гэтай бессэнсоўнай працай. Думаю, грашовыя выдаткі на гэтую працу будуць значна большыя, чым бюджэт атрымае грошай ад дармаедаў.

Па-трэцяе, у любым выпадку, будзе шмат пакрыўджаных людзей, якія трапілі ў «цяжкую жыццёвую сітуацыю». Асабліва ва ўмовах, калі беспрацоўе не зніжаецца, дзяржаўныя прадпрыемствы знаходзяцца на мяжы выжывання. Беспрацоўных, як і вясной мінулага года, прымусяць стаяць у вялізных чэргах да гэтых камісій. Улады нават не разумеюць, што гэтая прыніжальная працэдура абражае людзей. Але, з іншага боку, гэта дакладна ілюструе беларускую сацыяльную мадэль, у якой насельніцтва выступае ў ролі прасіцеляў. Гэта тое разуменне «дзяржавы для народа», якое прапануе ўлада.

2 лютага 2018 | № 3 (566) Новы Час



# Адамовіч запрашае Пазьняка вярнуцца ў Беларусь на святкаванне стагоддзя БНР

**Пра гэта ідзе гаворка ў лісце, які паэт і грамадскі актывіст даслаў у рэдакцыю «Новага Часу». Апроч таго, ён тлумачыць пэўныя арганізацыйныя моманты святкавання. Прыводзім яго ліст — з невялікімі рэдактарскімі праўкамі — цалкам.**

### Частка першая. Прэамбула, альбо Тлумачэнне моманту

На запрашэнне Руху салідарнасці «Разам», сябрам якога я з'яўляюся, 16 студзеня 2018 года я далучыўся да Рабочай групы пашыранага Аргкамітэту па адзначэнні 100-й гадавіны з часу абвяшчэння БНР. Літаральна на наступны дзень пасля нашага сходу — сходу, у якім узялі ўдзел людзі дастаткова шырокага непаддзяржаўнага грамадска-палітычнага сектару, — у сацыяльных сетках пачалі з'яўляцца ўжо добра знаёмыя ярлыкі-абзывалкі, што зноў «папы гапоны» збіраюцца кудысьці кагосьці весці.

У сувязі з гэтым, але ніяк не прэтэндуючы на ролю нейкага «адваката» каго б там ні было, мушу заўважыць наступнае. Якраз на сходзе Рабочай групы Аргкамітэту і былі падкрэсленыя два істотныя моманты. Паколькі ўпершыню за доўгія гады супрацву паміж бальшынёй крытыкаў дзейнага ў Беларусі рэжыму было дасягнута пагадненне пра супольную працу дзеля паспяховага правядзення НЕПРАТЭСТНАЙ святочнай дэманстрацыі і канцэрту 25 сакавіка 2018 года, то нейкія адмысловыя лідары такога чыну прынцыпова не абвяшчаюцца і не могуць быць. Бо адзначэнне 100-й гадавіны БНР — справа ўсёй Беларусі, усяго беларускага народа, у тым ліку і тых яго прадстаўнікоў, якія працуюць у дзяржструктурах і на дзяржпрадпрыемствах, і для якіх свабода і незалежнасць краіны ёсць безумоўны закон і неадменная вартасць.

Адсюль вынікае наш наступны пасыл: Аргкамітэт падкрэслівае, што пры ўсіх вядомых рэзонах і шматгадовым адмоўным вопыце, мы, арганізатары святкавання адной з найістотных датаў у найноўшай гісторыі Беларусі, спадзяемся, што ўлада хаця б гэтым разам зразумее важнасць моманту і, у адпаведнасці з існуючымі на сёння законамі і правіламі, пойдзе насустрач грамадскасці. І дазволіць правядзенне святочнай хады і канцэрту ў заяўленым Арганізатарамі фармаце, узгодненым абодвума бакамі.

Спадзяюся, я правільна вербалізаваў атмасферу Рабочага сходу пашыранага Аргкамітэту. Калі ж не — гатовы дэзавуяваць гэты допіс і больш не ўжываць займеннік «МЫ».

### Частка другая. Зыходзячы з дзейных прычынаў

Мы дамовіліся, што галоўная масавая публічная акцыя адзначэння Акту 25 сакавіка 1918 года плануецца як НЕПРАТЭСТНАЯ, святочная, без персаналізацыі, аднак з безумоўнай адказнасцю за правядзенне святочнага мерапрыемства, калі апошняе будзе дазволена ўладамі ва ўзгодненым бакамі фармаце.

Застаецца разгледзець фармат ex causa finali — з канцавой прычыны, якая, на маю думку, палягае ў тым, каб, маючы пад рукамі фармальную падставу, выкарыстаць апошнюю для фактычнага, публічнага і матэрыяльнага ўвасаблення Беларускай Нацыянальнай Ідэі (у скароце — Беларушчыны) у прапанаваных абставінах.

На сходзе Рабочай групы Аргкамітэту прагучалі заклікі ісці ў дзяржкабінеты і прапаноўваць прадстаўнікам улады ўсіх узроўняў ідэю наконт ушанавання даты, надзвычай істотнай для беларускай дзяржаўнасці. Вядома, заклікі слушныя, яны працягваюць з'яўляцца ў электронных медыя і сацсетках.

Аднак я хацеў бы звярнуць увагу перш за ўсё на наш прыватны сектар, наша прыватнае жыццё. Бо, калі паглядзець на яго незамыленым вокам, дык выявіцца, што якраз тут неаранае поле, каб у найноўшых маштабах стала праяўляцца БЕЛАРУСКАЯ Беларусь.

Як сказаў нехта з нашых папярэднікаў, не трэба двух, каб пачаць. У год вялікага юбілею вярніцеся, нарэшце, да мовы продкаў і пачніце гаварыць па-нашаму, па-беларуску (ужо нават адпаведныя курсы ёсць, якія дапамогуць). Яшчэ не можаце па-нашаму? Абнавіце нарэшце надмагіллі вашых дзядоў-прадзедаў па-беларуску! Думаю, там, на высінях, ваш чын азорыць ім шлях у Вечнасці, а тут, на зямлі, мы нарэшце нават на могілках зможам жыццесцвярджальна выгукнуць наш нязменны кліч: «Жыве Беларусь!» І гэта не прагучыць як аксюмаран, але як пераможная канстатацыя.

**Як сказаў нехта з нашых папярэднікаў, не трэба двух, каб пачаць. У год вялікага юбілею вярніцеся, нарэшце, да мовы продкаў і пачніце гаварыць па-нашаму, па-беларуску**






Courtesy Photo



svaboda.org (RFE/RL)

Яшчэ летась з сябрамі па руху «Разам» мы асвяцілі і ўзнялі на сцягары наш бела-чырвона-белы сцяг, які і сёння лунае над маёю прыватнай сядзібай у вёсцы Цагельня пад Мар'інай Горкай. Цяпер гонар мой крыху супакоіўся, але ён яшчэ больш палагаднее, калі людзі ў масавым парадку возьмуць на ўзбраенне мой прыклад. І ўжо ў гэтым юбілейным годзе мы зможам убачыць, як нашы сядзібы асвецяцца пранізліва-ясным, чыстым святлом нашых бела-чырвона-белых палотнішчаў, разгорнутых цалкам легальна і ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам. Калі ў каго ёсць свой сядзібны дом з участкам (а ён у многіх ёсць, не прыбядняйцеся), альбо хоць бы належным чынам дагледжанае лецішча, вы маеце цудоўную магчымасць годна адзначыць 100-гадовы юбілей БНР, узняўшы над сваёй прыватнай тэрыторыяй наш нацыянальны сцяг...

І яшчэ: калі ўжо ісці да адказных чыноўнікаў дзейнага рэжыму з прапановамі, дык варта гаварыць ім сярод іншага і пра ідэю закладання садоў, паркаў, сквераў «імя 100-годдзя БНР», якое адзначаецца ў гісторыі толькі адзін раз.

### Частка трэцяя. Адкрыты ліст да беларускага нацыянальнага лідара ў выгнанні Зянона Пазьняка

Паважаны Зянон Станіслававіч! Я не ведаю ўсіх нюансаў вашага шматгадовага знаходжання за межамі Бацькаўшчыны, але, грунтуючыся на ўласным досведзе выжывання паводле Дублінскай Канвенцыі 1990 года і як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, бяру на сябе смеласць прапанаваць вам наведаць нашу краіну з нагоды святкавання надзвычайнай даты ў гісторыі нашага народу — 100-й гадавіны з часу абвяшчэння БНР.

Ведаю, што такая прапанова многімі нядобразычліўцамі будзе расцэненая як «чарговая правакацыя». Гэта не навіна для мяне. Аднак я ведаю і тое, што словы без справаў мёртвыя. Вядома, не мне вам тлумачыць, што на 24-м годзе жыцця пад рэжымам унутранай акупацыі адбываецца глыбокая сацыяльная, палітычная, канфесійная і ўрэшце духоўная атамізацыя грамадства. Перш за ўсё з прычыны нечуванага нацыянальнага прыгнёту і татальнай русіфікацыі. Дух народу сціты ў абцугах самадура-пракуратара і яго клікі, але не да безнадзейнасці. У нас, беларускіх патрыётаў-нацыяналістаў, ёсць магчымасць перавесці патэнцыйную энергію 2018 года як Года БНР у кінетычную з пастаяннай дынамікай росту. Іншымі словамі, вас, Зянон Станіслававіч, чакаюць нават тыя, хто ўжо даўно і незваротна паставіў толькі на ўласныя сілы. Самае кур'ёзнае, бадай, у тым, што вашаму прыезду спрыяе і ўвядзенне так званага бязвізу на нашай заходняй мяжы. Варта толькі пісьменна выкарыстаць сітуацыю.

Не сумняваюся: калі аднойчы мы пачуем, што Зянон Пазьняк сёлета збіраецца наведаць Беларусь, то нават не дзясяткі, а сотні аўто вашых прыхільнікаў, апалагетаў і проста суайчыннікаў гатовыя будуць сустрэць вас на любым памежным пункце пропуску і забяспечаць належны эскорт. Менавіта ваш прыезд у Беларусь з паўнамоцтвамі ад Рады БНР альбо ўласна яе прадстаўнікамі стаўся б найярчэйшым і найістотным момантам адзначэння сотай гадавіны з часу прыняцця Трэцяй Устаўной Граматы.

Са свайго боку ў выпадку вашага прыезду гарантую вам самы цёплы прыём у самым цэнтры Беларусі — у Мар'інай Горцы, а таксама калектыўнае фота на фоне бела-чырвона-белага сцяга, які і сёння лунае на сцягары на маёй беларускай сядзібе.

Спакойнага ўезду і прыязных памежнікаў, Зянон Станіслававіч!

**У нас, беларускіх патрыётаў-нацыяналістаў, ёсць магчымасць перавесці патэнцыйную энергію 2018 года як Года БНР у кінетычную з пастаяннай дынамікай росту**



Фота www.pogovorim.by

**Блакаванне папулярнага сайту «Хартыя'97» ды чарговая спроба вярнуць нязменнага лідара КХП БНФ Зянона Пазьняка на Радзіму — дзве падзеі з жыцця беларускіх палітыкаў у замежжы, што ўскалыхнулі апошнім часам грамадскасць.**



Алесь КІРКЕВІЧ

# Як вярнуць Пазьняка і навошта блакаваць «Хартыю»?

Гэтым разам да Пазьняка з адпаведным заклікам звярнуўся паэт, дысідэнт і колішні палітвязень Славамір Адамовіч. Маўляў, крута было б, каб «айцец Адраджэння» вярнуўся ў Беларусь на 100-я ўгодкі БНР. Пазьняк, наколькі вядома, так нічога паэту і не адказаў.

Гэта ўжо не першы і, мабыць, не апошні зварот да палітыка з прапановай вяртацца. Той жа Сяргей Навумчык, паплечнік Зянона Пазьняка, які з'ехаў разам з ім у 1996-м, не так даўно ўсё ж такі прыязджаў на Бацькаўшчыну, хай і на пару дзён. Як бачым, ніхто яго не скраў, не змясціў у СІЗА, хоць легенда пра непазбежны гвалтоўны фінал вяртання была актуальнай для абодвух на працягу апошніх дваццаці гадоў...


Фота www.charter97.org

Дзень Волі ў Варшаве. 2013 год

Важнае іншае пытанне: кім вернецца ў Беларусь Пазьняк і што будзе тут рабіць? Пагодзімся, што Пазьняк у свядомасці суайчыннікаў даўно перарос маштаб рэальнай асобы іператварыўся ў сімвал. Для кагосьці — у героя і прарока, для кагосьці — у нязменную «страшылку». Але як толькі Пазняк вернецца, а яго нага кранецца асфальту ў мінскім аэрапорце, ён зноў стане звычайным чалавек — спусціцца з нябёсаў на зямлю ў прамым і пераносным сэнсе.

Перад ім паўстане зусім іншы Мінск, з начной падсветкай, дагледжанымі дамамі на праспекце, рэстаранамі і клубамі — зусім не тое, што ён бачыў апошнім разам у 1996-м. Разам з тым, ён сутыкнецца з рэальнымі беларусамі, мінакамі на вуліцах, якія маглі нарадзіцца ўжо пасля яго нагага ад'езду. Давядзецца сутыкнуцца і з рэальным станам структураў КХП БНФ, якую сёння наўрад ці можна назваць актыўнай і папулярнай партыяй.

Тады навошта вяртацца, кім і куды? Падаецца, існуе ўсё ж такі некалькі варыянтаў. Варыянт першы — асабісты. Для гэтага Пазьняку трэба вярнуцца, як Навумчыку, на пару дзён. Паглядзець, што ды як, зладзіць прэс-канферэнцыю, з'ездзіць у Курапаты і — назад. Гэта быў бы візіт пераадолення асабістых перасцярог.

Варыянт другі — палітычны. Вярнуцца, каб узначаліць аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР. Такая дата трапляецца ўсяго аднойчы ў вечнасці. Тым больш, аднойчы ў жыцці палітыка, значна карацейшым за вечнасць. Тое мела б і рацыянальны сэнс: чалавек-сімвал узначаліў бы падрыхтоўку вулічнай акцыі 25 сакавіка, стаўся б яе адзіным рупарам замест стракатай кампаніі з палітыкаў, грамадскіх дзеячаў ды цалкам незразумелых асобаў (апошняе пасяджэнне аргкаму, здаецца, сабрала каля 50 чалавек). Пасля 25-га Зянон бярэцца за аднаўленне партыйных структураў, пляжыць апазіцыю, шмат выступае ў СМІ, ходзіць на прыборкі ў Курапаты, ставіць там крыжы, запальвае знічкі.

Варыянт трэці — месіянскі. Пазьняк вяртаецца інкогніта, афармляе пенсію, зрэдку з'яўляецца як шараговы ўдзельнік на «Чарнобыльскі шлях» ды «Дзяды», дзе адмаўляецца цісну руку масцітым апазіцыянерам. Стала селіцца ў Суботніках, піша кнігі, ходзіць у касцёл ды разводзіць пчолаў. Да яго ездзяць паломнікі і журналісты за добрай парадай, каментарам і мёдам. Такі варыянт канчаткова сфармуе вобраз нацыянальнага прарока мяжы 1980–1990-х, які годна прайшоў свой шлях і скончыў яго там, дзе некалі пачаў.

Магчыма, нехта палічыць вышэйпералічаныя варыянты ледзьве не блюзнерствам: «Як так, Зянон сам разбярэцца, што рабіць! Чалавек заслужаны...» Канешне, заслужаны, ніхто не адмаўляе. Пры гэтым, апеляваць увесь час да заслугаў мінулага — не выйсце. Часам падаецца, што «вера ў вяртанне Зянона» — гэта не проста хваравітая настальгія, але ўпартае нежаданне выходзіць з зоны камфорту, непрыманне сучаснага свету і Беларусі ў ім. Інакш, як патлумачыць шматгадовыя мантры пра вяртанне чалавека з мінулага ў Беларусь як пра падзею касмічнай важнасці?

Ну і пра заслугі. Дзяды, прысяга на 8 верасня з удзелам БЗВ, традыцыя шэсцяў на 25 сакавіка — гэта, безумоўна, заслугі Народнага Фронту, частка нашай найноўшай гісторыі. Разам з тым, людзям цікавая гісторыя поспеху, а не паразы. А калі ўжо параза — хай бы быў які план на поспех наступным разам, а не бясконцае перажоўванне падзеяў 1990-х гадоў, пасяджэнняў Вярхоўнага Савету 12 склікання, Рэферэндуму 1996-га... Ну колькі можна?

У польскай гістарыяграфіі быў такі тэрмін — «пакаленне паразы» — так называлі патрыётаў, якія далучыліся да кампаніі Напалеона ў 1812-м, каб адрадзіць Рэч Паспалітую, і прайгралі. Так, гэта было прыгожа і гераічна, але гэтыя людзі так і засталіся прайграўшымі. Наноў стварыць польскую нацыю, ужо не элітарна-шляхецкую, а ўсеагульна-дэмакратычную, збудаваць эканоміку на новы манер, нарэшце, здабыць сваю дзяржаву праз сто год давялося ўжо зусім іншым людзям. Пагадзіцеся, усё гэта нечым нагадвае гісторыю Народнага Фронту пачатку 1990-х і лёсы яго ных лідараў. Што ж, дзякуй за спробу, але заўтрашні дзень Беларусі будаваць давядзецца ўжо вашым унукам, панове. Адпачніце.

Да чаго ж у гэтай звязцы блакаванне сайту «Хартыя'97»? Насамрэч, у каманды «Хартыі» (Саннікаў, Радзіна, Бандарэнка) і Зянона ёсць шмат агульнага: тая ж бескампраміснасць адносна кіраўніка Беларусі, тая ж нецярпімасць адносна «канкурэнтаў» у Беларусі, тая ж адарванасць. Метадалогія таксама ў нечым падобная: спрабаваць уплываць на беларусаў адно праз інфармацыйныя патокі ў выпадку сайту «Хартыі», кнігі пра гісторыю і культуру ў выпадку Зянона. Кнігі Пазьняка канфіскоўваюць на мяжы, сайт «Хартыі» ў чарговы раз блакуюць.

Ці добра, што заблакавалі? Канечне, не. Сайт адыёзнага чарнасоценнага «Рэгнума», які адмаўляе само натуральнае права беларусаў мець сваю дзяржаву, працуе надалей, а «Хартыю» вы адкрыеце ўжо адно праз адмысловыя праграмы. «Хартыя» для ўладаў больш небяспечная?.. Падобна, што дысбаланс і вера праўладных аналітыкаў, маўляў, апазіцыя заўжды страшнейшая за «русский мир», надалей маюць моц.

«Хартыйцы», на жаль, пайшлі шляхам Зянона: рэдакцыя пачала паслядоўна вінаваціць апазіцыйных палітыкаў, актывістаў і нават журналістаў у супрацы з «органамі». Доказаў, праўда, так ніхто ані разу і не прадставіў, але гучных абвінавачванняў — поўна. Чым далей ад Беларусі, тым больш змрочнымі падаюцца яе рэаліі. Зянон гадамі верыў, што пры вяртанні ў Беларусь яго заб'юць. Нарэшце, мы пачулі тое самае з вуснаў Радзіной: «Калі я вярнуся ў Беларусь, мяне арыштуюць — на смяротнае пакаранне я сабе ўжо напрацавала».

Па-рознаму можна ставіцца да таго ж Алеся Міхалевіча, экс-кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года. Сядзеў, падпісаў паперы аб супрацы, з'ехаў, распавёў усяму свету пра ўмовы ўтрымання ў «Амерыканцы», а пасля... вярнуўся. Не ведаю, паводле Радзіной, ці напрацаваў сабе Алесь на «смяротнае пакаранне», але на сур'ёзныя праблемы дакладна мог разлічваць. Таму, мабыць, вяртаючыся ў Беларусь, і меў пры сабе адмысловую валізу з рэчамі для СІЗА — на ўсялякі выпадак. Інтэлігент, акулярык, але — здолеў, перамог свае страхі. І тое варта павагі. Таму акурат Міхалевіч мае шансы яшчэ паўплываць на гісторыю Беларусі, а не проста застацца ў ёй — у мінулым часе.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Саакашвілі абяцае новую сталіцу

Экс-прэзідэнт Грузіі, а цяпер украінскі апазіцыянер Міхаіл Саакашвілі паабяцаў у выпадку прыходу да ўлады ва Украіне перанесці сталіцу з Кіева ў горад Шпола (Чаркаская вобласць). Сваёй ідэяй ён падзяліўся ў фільме ўласнай вытворчасці пра краіну будучыні. Палітык лічыць, што згаданы 17-тысячны населены пункт з'яўляецца геаграфічным цэнтрам дзяржавы, таму адміністрацыйнае планаванне тут будзе цалкам лагічным. У новай сталіцы, абяцае Саакашвілі, будзе велізарны Майдан, а вакол — празрыстыя адміністрацыйныя будынкі, у якіх пачнуць працаваць выключна сумленныя, патрыятычныя і маладыя чыноўнікі, прызначаныя без хабараў і кумаўства праз конкурсную працэдуру. Жыць гэтыя сумленныя бюракратычныя працаўнікі будуць тут жа, непадалёк, у спецыяльна пабудаваных дзяржаўных кватэрах. Глыбока пад зямлёй будзе размешчаны мозг усёй краіны — нейкі мультымедыйны цэнтр, дзе спецыяльна сабраныя эксперты будуць прымаць самыя важныя рашэнні. Відавочна, што ўвесь гэты праект трохі нагадвае маналог Астапа Бендэра пра Нью-Васюкі, чым адразу скарысталася праўладная прэса.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Выратаванне ў каровах?



Нядаўна абраны прэзідэнт Кыргызстану Сааранбай Жээнбекаў вельмі актыўна пачаў выконваць свае функцыі. Ён вырашыў спыніць перасяленне грамадзян з вёскі ў горад і працоўную міграцыю за мяжу. Спыніць непажаданыя масавыя перамяшчэнні можна за кошт... кароў. Прэзідэнт лічыць, што «3–4 дойныя каровы будуць з лішкам карміць адну сям'ю». «Наяўнасць 3–4 кароў дазволіць забяспечваць сям'ю... Маючы чатырох кароў, можна атрымліваць у суткі 60 літраў малака, а прадаючы яго за 20 сомаў (адзін долар роўны прыкладна 64 сомы), можна зарабляць 1200 сомаў на дзень, або 36 тысяч сомаў на месяц. Гэта можна параўнаць з прыбыткам мігрантаў, і такім чынам можна спыніць міграцыю», — сказаў Жээнбекаў. Цікава, што эксперты сур'ёзна ўспрынялі словы гаранта, паколькі побач знаходзіцца бяздонны кітайскі рынак. Праўда, яны прапануюць Жээнбекаву папулярызаваць не кароў, а чарэшню. Чамусьці кітайцы вельмі любяць гэтую культуру.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Новая версія «Кармэн»

Прыхільнікі талерантнасці дабраліся да оперы. У Фларэнцыі ў мясцовай оперы вырашылі, што вядомы твор Жоржа Бізэ «Кармэн» не адпавядае стандартам сучаснасці. Дырэктару оперы ў Фларэнцыі, у прыватнасці, не падабаецца фінал, дзе Дон Хасэ, былы каханак Кармэн, забівае яе. У гэтым была заўважана прапаганда гвалту з жанчын. Плюс тая сцэна, нібыта, можа стымуляваць рост злачынстваў у грамадстве супраць слабага полу. Акрамя таго, як лічаць некаторыя, старая версія «Кармэн» супярэчыць місіі мастацтва, якое не павінна прапагандаваць гвалт. У новай версіі, якую прапанаваў дырэктар, Кармэн аказваецца спрытнейшай і сама забівае Дона Хасэ. Праўда, калектыву артыстаў сцэнарная ініцыятыва не спадабалася. Яны лічаць, што смерць Кармэн — гэта ключавая сцэна твора. Праўда, гэтая фракцыя здолела дамагчыся толькі таго, што Кармэн у оперы цяпер не будзе забіваць Хасэ. Апошні сам памірае на сцэне ад інфаркту.

**Паводле італьянскай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. Галандская «мова нанова»

Нечакана для ўсіх вялікую падтрымку ў Амстэрдаме атрымала ініцыятыва ў абарону галандскай мовы. Мову Шэкспіра ў Амстэрдаме сапраўды можна пачуць на кожным куце. Гэта тлумачыцца тым, што горад вельмі папулярны сярод турыстаў. Доўгі час экспансію англійскай мовы ігнаравалі, пакуль раптам не паўсталі мясцовыя жыхары. Цяпер абаронцы мовы фармуюць групоўкі, якія здзяйсняюць рэйды па грамадскіх месцах у пошуках тых, хто аддае перавагу англійскай, а не галандскай. Ужо ёсць першыя перамогі — актывістам удалося зачыніць кампанію «Amsterdam Cheese Company», якая ў рэкламе і тэкстах меню выкарыстоўвала толькі англійскую мову. На думку ініцыятараў кампаніі, вяртанне галандскай мовы будзе спрыяць росту грамадзянскай адказнасці бюргераў за свой горад. Наступнай тэмай кампаніі стане вяртанне лекцый на галандскай у мясцовых ВНУ. Сёння ва ўніверсітэтах Нідэрландаў на некаторых факультэтах — напрыклад, на псіхалагічных, — выкладаюць выключна на англійскай.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Як пачалася новая эра

Алег НОВІКАЎ

**Паводле газеты «Times», сто гадоў таму «грамадства перанеслася ў новае вымярэнне, адкуль няма вяртання»: 6 лютага 1918 года брытанскі рух суфражыстак дамогся выбарчага права для жанчын, што хутка стала прыкладам для ўсяго свету.**



Дэмастрацыя суфражыстак у Лондане, 1907 год



Арышт суфражысткі. 1913 год

Фота www.topwar.ru

Фраза пра «новае вымярэнне» — не пафас. Лепшы прыклад — сама «Times», якая сто гадоў таму, як орган брытанскіх кансерватараў, была адным з вядучых крытыкаў жаночага руху. Сама ідэя перагляду статуса жанчыны ў грамадстве выклікала ў кансерватараў у лепшым выпадку смех. У гэтым асяроддзі была папулярная серыя карыкатур пра тое, што будзе, калі суфражысткі (ад французскага слова «suffrage» — «выбарчае права») перамогуць. На малюнках гэта выглядала так — жанчыны будуць піць і паліць, а мужчыны займацца хатняй справай і гадаваць дзяцей.

Праўда, хутка кансерватарам стала не да жартаў. Рух суфражыстак, што паўстаў у Англіі напачатку ХХ стагоддзя, стаў набываць папулярнасць. Прычынай, безумоўна, былі тагачасныя рэаліі — жанчыны не мелі ніякіх сацыяльных і грамадзянскіх правоў, у тым ліку не маглі ўдзельнічаць у палітычным жыцці.

Спачатку суфражысткі дамагаліся права голасу праз пікеты і петыцыі. Улада рэагавала на акцыі дастаткова жорстка — як правіла, адпраўляла парушальніц парадку ў турмы. У выніку гэта паспрыяла радыкалізацыі руху. Вязні-суфражысткі абвяшчалі галадоўкі. Іх калегі на свабодзе пераходзілі да новых метадаў: білі вокны ў дамах палітыкаў, якія адмаўлялі жанчынам у выбарчым праве, падпальвалі будынкі, што належалі дэпутатам.

Пачынаючы прыкладна з 1912 года радыкальнае кола суфражыстак сышло ў тэрарызм. Прычым, суфражысткі-тэрарысткі ў сваіх акцыях пераходзілі ўсе этычныя межы. Бомбы падкладаліся не толькі ў будынкі адміністрацый, але таксама ў пасажырскія цягнікі і царкоўныя ўстановы. Не дзіўна, што хутка рух раскалоўся, і яго экстрэмісцкая частка сышла ў падполле. Прынамсі, на нелегальным становішчы знаходзілася лідарка брытанскіх суфражыстак харызматычная Эмелін Панкхёрст.

Хаця найбольш небяспечнай у паліцэйскіх рапартах лічылася Джэні Бэйнс — кіраўніца гуртка, у які яна ўцягнула нават сына і мужа. Гурток у тым ліку планаваў замах на тагачаснага брытанскага прэм'ер-міністра падчас яго візіту ў Дублін. Злавілі місіс Бэйнс толькі ў 1913-м падчас падрыхтоўкі дыверсіі на чыгунцы. Яе адправілі за краты, адкуль тая, будучы вельмі хворай, умудрылася збегчы ў Аўстралію, дзе ўдзельнічала ў стварэнні мясцовай кампартыі.

З улікам такога зацятага супрацьстаяння падаецца цудам тое, што прыкладна праз пяць гадоў урад пагадзіўся даць жанчынам выбарчае права. Адпаведны акт быў выдадзены 6 лютага 1918 года.

Дасюль гісторыкі не маюць агульнага меркавання наконт таго, што стаяла за гэтым крокам. Значна менш тых, хто лічыць, што ў Вестмінстары сапраўды згадзіліся з аргументамі Панкхёрст і яе сяброўак. У лепшым выпадку, гэта быў знак падзякі суфражысткам, якія пасля пачатку Першай сусветнай вайны адмовіліся ад барацьбы дзеля агульнай перамогі.

Хутчэй за ўсё, сваю ролю адыграла палітычная кан'юнктура. Адным з фактараў магла быць пагроза зрыву выбараў у парламент, паколькі шмат мужчынаў-выбаршчыкаў былі на фронце. І таму вырашылі пашырыць калегію выбаршчыкаў за кошт жанчын.

Магло паўплываць і тое, што жаночае пытанне стане інструментам прапаганды бальшавікоў. У Расіі яшчэ Часовы ўрад прыняў пастанову, згодна з якой выбарчыя правы надаваліся ўсім грамадзянам, якія дасягнулі 20 гадоў. Да радыкальнай эмансіпацыі жанчын ва ўсім свеце заклікалі ў Расіі і пасля Кастрычніка 1917-га.

Цікава, што самымі расчараванымі 6 лютага 1918 года былі не рэтраграды-кансерватары, а самі суфражысткі. Практычна ва ўсіх іх мемуарах гучыць думка пра тое, што ў гэты дзень жыццё часткова згубіла сэнс. Да таго ж назваць перамогай рэформу 6 лютага было цяжка.

Да ўдзелу ў выбарах дапускаліся толькі жанчыны, старэйшыя за 30 гадоў, якія мелі нерухомасць, заможнага мужа, дыпломы ВНУ, плацілі высокі падатак з уласнасці. Як жартавала адна з тагачасных феміністак: «Каб галасаваць, мне трэба пабрацца шлюбам, або набыць дарагую мэблю».

Але сумавалі суфражысткі нядоўга. Ім трэба было давесці, што патрабаванне выбарчага права для жанчын — гэта не бздуры экзальтаваных актывістак. Кансерватыўная прэса прагназавала, што простыя жанчыны далёкія ад лозунгаў суфражызму, і таму не пойдуць на выбарчыя ўчасткі. Па-першае, таму, што яны па сваёй жаночай прыродзе... вельмі сціплыя. Па-другое, маўляў, у іх не будзе часу галасаваць, паколькі нехта павінен даглядаць гаспадарку. Суфражысткі ўспрымалі гэта ўсур'ёз, і нават мабілізавалі валанцёрак, якія даглядалі за дзецьмі, пакуль іх маці апускае выбарчы бюлетэнь.

Аднак змрочныя прагнозы аказаліся толькі фантазіямі. Яўка жанчын-выбаршчыц была вельмі высокай. А іх актыўнасць прымусіла парламент увосень 1918-га дазволіць жанчынам балатавацца. Праўда, і тут не абышлося без кур'ёзаў. Першай жанчынай — дэпутатам парламента ў снежні 1918-га стала Нэнсі Астор, якая выступала супраць суфражыстак. Аднак гэта ўжо іншая гісторыя. Новая эра, так ці інакш, пачалася.

# Польская Каталонія

Алег НОВІКАЎ

**Падчас развіцця эскалацыі канфлікту паміж Польшчай і ЕС усё больш увагі ў прэсе надаецца Руху за аўтаномію Сілезіі (RAS).**



Фота www.commons.wikimedia.org

У вачах польскага патрыёта Юзаф Пілсудскі — амаль сакральная фігура. Аднак, думаецца, нават самы фанатычны яго прыхільнік не ў захапленні ад прынятага ім рашэння даць аўтаномію Сілезіі. З іншага боку, магчыма, на той час з боку Пілсудскага тактычна гэта быў правільны крок. Горная Сілезія, дзе жыло шмат этнічных немцаў, атрымала аўтаномію ў ліпені 1920-га ў разгар польска-бальшавіцкай вайны, калі Польшчы быў патрэбны моцны тыл.

Так ці інакш, джын сілезскага аўтанамізму быў выпушчаны. І хаця сама аўтаномія знікла пасля прыходу ў 1939 годзе гітлераўцаў і больш не аднаўлялася, міф пра яе захаваўся. Нездарма, як толькі ў краіне аднавілася дэмакратыя, у Сілезіі ўзніклі ініцыятывы за вяртанне рэгіёну даваеннага статус-кво.

Першыя выбары прынеслі аўтанамістам два мандаты ў Сейме. Пазней на нейкі час Рух за аўтаномію Сілезіі маргіналізаваўся, пакуль прыкладна з 2006-га не пачаў вяртацца ў вялікую палітыку, набіраючы на выбарах каля 5–7 працэнтаў галасоў мясцовых жыхароў. Па выніках апошніх выбараў Рух за аўтаномію Сілезіі атрымаў чатыры мандаты ў краёвых саветах.

Трапіўшы ў заканадаўчыя органы, аўтанамісты намагаюцца рэалізаваць праграму руху. Увогуле, яе кульмінацыя — трансфармацыя Польшчы ў дзяржаву рэгіёнаў, адным з суб'ектаў якой будзе аўтаномная Сілезія. Аднак перш за ўсё, паводле праграмы RAS, трэба вырашыць задачу фармавання ідэнтычнасці сілезцаў. Гэта ў тым ліку азначае тое, што Варшава павінна прызнаць наяўнасць у краіне такога субэтнасу, як сілезцы. Найбольш радыкальныя аўтанамісты кажуць пра існаванне асобнай сілезскай мовы.

Нягледзячы на феномен RAS, грамадскасць Польшчы ён асабліва не цікавіў. Тэму раскручваў хіба што афіцыёз. У лютым мінулага года на першым канале польскага тэлебачання выйшаў фільм пра тое, што сілезцы мараць пра выхад рэгіёну са складу Польшчы і ў дадатак кантактуюць з замежнымі шпіёнамі. Паколькі польскія спецслужбы на «сенсацыю» не адрэагавалі, стужку ўсур'ёз не ўспрынялі. Тым больш, што ў фільме актыўна ўзгадвалі, што менавіта ліберальная апазіцыя ахвотна запрашае RAS у свае кааліцыі.

Сітуацыя кардынальна змянілася восенню, калі пачаліся вядомыя працэсы ў Каталоніі. Менавіта ў гэты час кіраўніцтва Руху за аўтаномію Сілезіі апублікавала заяву, якая стала медыябомбай. Самы вялікі інтарэс у публікі выклікаў наступны фрагмент рэзалюцыі: «Пат у адносінах паміж Барселонай і Мадрыдам даказвае, што спрэчка паміж Еўрапейскім саюзам і правінцыямі, што паўсталі, не можа разглядацца як унутраная справа гэтых краін, якія маюць спакусу выкарыстоўваць сілу супраць уласных грамадзян. Еўрапейская супольнасць павінна распрацаваць правілы і працэдуры для вырашэння падобных канфліктаў».

Натуральна, патрыятычная грамадскасць пабачыла тут замах на суверэнітэт. Эмоцыі зашкальваюць таксама праз некаторыя гістарычныя аспекты. Барацьба за Сілезію ў 1920-я гады — гераічная старонка польскай гісторыі.

Кансерватыўная прэса аператыўна прапанавала аўдыторыі канспіратыўныя версіі наконт таго, хто мог стаяць за сілезцамі. Пакуль дамінуе думка, што сілезскі рух інспіруе Берлін, якому патрэбныя рычагі ціску на адміністрацыю Качыньскага. Як вядома, раней Варшава вырашыла рэфармаваць судовую сістэму, фактычна падпарадкаваўшы яе заканадаўчай уладзе, і не жадае прымаць імігрантаў. «Яны (прыхільнікі аўтаноміі) павінны паехаць у Германію. Рух трэба забараніць. Гэта спроба адарваць частку тэрыторыі з берлінскага салона», — піша адзін з патрыятычных блогераў.

Пра нямецкі след, быццам бы, сведчыць і цікавая рэзалюцыя з'езду RAS у красавіку мінулага года. Яго ўдзельнікі паабяцалі правесці рэферэндум аб незалежнасці горнай Сілезіі ў выпадку выключэння Польшчы са складу Еўрапейскага саюза. Праўда, тое рашэнне было прынятае 1 красавіка, што дазволіла лідарам руху трактаваць яго як жарт.

У руку Берліна вераць не ўсе. На другім месцы — версія, паводле якой за сілезскімі аўтанамістамі тырчаць вушы Крамля. Яшчэ адзін з патрыётаў-блогераў адзначае: «Гэта зноў Расія. Ужо Сувораў пісаў, што ГРУ мае сродак, каб выклікаць сацыяльныя хваляванні ў краіне, і інтэрнэт добра пасуе для выканання гэтай задачы».

Самі аўтанамісты рэагавалі на такія публікацыі і заявы вельмі арыгінальна. Па словах аднаго з правадыроў RAS, істэрыка супраць аўтанамістаў Сілезіі выкліканая прыступамі рэўнасці. Маўляў, узровень жыцця ў Сілезіі заўжды быў на галаву вышэйшы, чым у іншых ваяводствах. Цяпер RAS плануе аб'яднацца з іншымі аўтанамістамі для стварэння агульнай партыі.

**Аўтанамісты намагаюцца рэалізаваць праграму руху, кульмінацыя якой — трансфармацыя Польшчы ў дзяржаву рэгіёнаў. Адным з яе суб'ектаў будзе аўтаномная Сілезія. Аднак найперш трэба вырашыць задачу фармавання ідэнтычнасці сілезцаў**

Між тым, 30 студзеня камітэт Еўрапарламента па грамадзянскіх свабодах падтрымаў рашэнне Еўракамісіі па запуску працэдуры санкцый супраць Польшчы. Калі Еўрапарламент на сесіі ў лютым ухваліць увядзенне санкцый, то Варшава часова страціць права голасу ў Савеце ЕС, што з'яўляецца беспрэцэдэнтным выпадкам за ўсю гісторыю Еўрасаюза. Можна меркаваць, што інфармацыйная вайна Варшавы і Брусселя будзе працягвацца, і нехта, магчыма, захоча скарыстаць сілезскую карту.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Кіраўнік Казахстана, які амаль зачысціў палітычнае поле краіны, нечакана сутыкнуўся з сапраўдным бунтам.

Узбунтаваліся навукоўцы-філолагі, якія незадаволеныя цяперашнім варыянтам лацінкі. Нагадаем, што 27 кастрычніка мінулага года Назарбаеў зацвердзіў алфавіт казахскай мовы, заснаваны на лацінскай графіцы. Зацверджаны ўказам варыянт не падабаецца навукоўцам і шматлікім казахам. 30 студзеня Саюз навукоўцаў Казахстана звярнуўся да ўладаў з лістом, дзе прапанаваў новы варыянт лацінкі.

Пры гэтым ліст утрымлівае яўны палітычны падтэкст. На думку навукоўцаў, грамадскасць не задавальняе прынятая ў парламенце версія лацінкі, паколькі яна шырока не абмяркоўвалася.

Пакуль рэакцыі ўладаў няма, але яна можа быць вельмі жорсткай. Калі Назарбаеў пагодзіцца з меркаваннем навукоўцаў, то патрапіць у дурное становішча. Не кажучы пра тое, што адразу, ужо праз два тыдні пасля зацвярджэння лацінкі, кнігу Нурсултана Назарбаева «Гады і думкі» перавыдалі новым правапісам.

Зрэшты, не выключаюць, што Назарбаеў можа зрабіць крайнімі сваіх дэпутатаў.

### Мігель Марыя Дыяс-Канель Бермудэс



У прэсе з'явілася інфармацыя, згодна з якой праз два месяцы, калі Рауль Кастра сыдзе на пенсію, Востраў Свабоды, хутчэй за ўсё, узначаліць цяперашні віцэ-прэзідэнт Кубы.

Тое, што выбар зроблены на карысць Дыяс-Канеля, магчыма, невыпадкова. Пасля атрымання дыплома інжынера ён прайшоў усе прыступкі партыйнай кар'еры — ад актывіста камсамола і рэгіянальнага партсакратара да міністра здароўя і сябра палітбюро. Кубіназнаўцы называюць яго экспертам кулуарных гульняў у кубінскім кіраўніцтве.

Хоць у заходніх газетах і пішуць, што Дыяс-Канель — артадаксальны камуніст і не любіць рэформы, яго фігуру ўспрымаюць пазітыўна. Як бы там ні было, упершыню з 1959 года краінай будзе кіраваць асоба, якая не носіць прозвішча Кастра. Акрамя таго, некаторым ён знешне нагадвае папулярнага амерыканскага акцёра Рычарда Гіра.

Выбары кіраўніка адбудуцца 19 красавіка, калі збярэцца новая Нацыянальная Асамблея (на Кубе, згодна з Канстытуцыяй, кіраўніка краіны абірае парламент). Праўда, нельга выключаць, што да гэтага часу можа здарыцца нейкі фарс-мажор. Напрыклад, неяк Фідэль Кастра ўжо збіраўся прызначыць сваім пераемнікам дырэктара МЗС Роберта Рабэйна, аднак у выніку дыпламата абвінавацілі ў супрацоўніцтве з замежнікамі, звольнілі і выключылі з партыі.

### Луіджы Дзі Маё



Італьянскі прадпрымальнік і палітык, кандыдат у прэм'ер-міністры ад левапапулісцкага «Руху пяці зорак» (Movimento 5 Stelle, або M5S), справакаваў у Еўропе сапраўдную паніку. 29 студзеня ён не выключыў стварэння па выніках сакавіцкага галасавання кааліцыі з рэгіянальнай партыяй «Ліга Поўначы».

На сёння, як кажуць сацыёлагі, у такога саюза ёсць шанцы. Гэта кааліцыя, на думку спецыялістаў, стане сапраўднай мінай пад еўрапейскія структуры, паколькі абедзвюм партыям характэрныя еўрафобскія і прапуцінскія погляды. У кіраўніцтве M5S нават не выключаюць выхаду з еўразоны і вяртання да італьянскай ліры.

Самае незвычайнае ў сітуацыі — тое, што спыніць падобны сцэнар здольны толькі Сільвія Берлусконі. Той самы Берлусконі, якога ў еўрапейскай эліце інакш як карупцыянерам, мафіёзі і эратаманам не называюць. Берлусконі нядаўна вярнуўся ў палітыку і таксама разлічвае на фатэль прэм'ера. Як піша прэса, рыторыка Берлусконі менш агрэсіўная, чым у Луіджы Дзі Маё. Ён на словах нават гатовы працягнуць эканамічны курс цяперашняга праеўрапейскага левага кабінета Матэа Рэнцы. Аднак многія баяцца, што дарваўшыся да штурвала ўлады «Кавалер» (мянушка Берлусконі) будзе менш лаяльным на адрас Бруселю.

2 лютага 2018 | № 3 (566) Новы час

# Як аднаасобнікі ад павіннасцяў ухіляліся, і што з гэтага атрымалася

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Асуджэнне на адносна кароткія тэрміны зняволення за нязначныя правіннасці было адным са складнікаў сталінскага тэрору. А некаторыя артыкулы Крымінальнага кодэксу — напрыклад, артыкулы 93 і 94 КК БССР, — каралі за супраціў «бальшавіцкаму прыгоннаму праву».**




> **У 1930-я гады ў СССР была створана шырокая сістэма не толькі грашовых падаткаў, але і натуральных павіннасцяў для сялян, прычым выконваць павіннасці мусілі як аднаасобнікі, так і калгаснікі**

## Засцянковы бунт

5 лістапада 1935 года суд 3 участка горада Менска ў складзе суддзі Манько, членаў-засядацеляў Сташкевіча і Камлюк пры сакратары Стрыгун разгледзеў у двух асобных пасяджэннях справы двух аднаасобнікаў засценка Трасцянец Трасцянецкага сельсавета. На абодвух пасяджэннях адсутнічалі абаронца і пракурор — з пункту гледжання юстыцыі СССР, прысутнасць такіх важных людзей на такіх нязначных судах была залішняй. Абодвух абвінавачвалі па другой частцы артыкула 94 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года. У рэдакцыі 1933 года артыкул гучаў наступным чынам:

«Адмаўленне паасобных грамадзян выконваць павіннасці і работы, якія маюць агульнадзяржаўнае значэнне, выклікае — штраф, які накладаецца адпаведным органам улады ў межах да пяціразовага размеру кошту павіннасці або работы.

Такія самыя дзеянні, калі яны ўчынены ў другі раз, або злоснае адмаўленне выконваць указаныя павіннасці і работы хаця б і ў першы раз, выклікаюць — папраўча-працоўныя работы да аднаго года або пазбаўленне свабоды да трох год.

Такія самыя дзеянні, калі яны ўчынены кулакамі хаця б і ў першы раз, выклікаюць — пазбаўленне свабоды не менш як на тры гады з канфіскацыяй маёмасці».

Адзін з падсудных — Канстанцін Мікалаевіч Ляшкевіч, 1901 года нараджэння, беспартыйны, жанаты, меў дваіх утрыманцаў, быў несудзімым, ваеннаабавязаным, радавым, у 1935 годзе заплаціў падатку 500 рублёў. Паводле словаў прысуду, Ляшкевіч «упарта адмаўляўся ад выканання даведзенага пасяўнога плана жыта на 1935 год. Тлумачэнні Ляшкевіча, што ён адмовіўся выканаць пасяўны план з прычыны сваёй хваробы, нічым не абгрунтаваны і абвергнуты […] сведкамі». Канстанцін Ляшкевіч быў прысуджаны да турэмнага зняволення з адбыццём у агульных месцах зняволення тэрмінам 2 гады. Мерай стрымання да ўваходу прысуду ў законную сілу была падпіска аб нявыездзе са сталага месца жыхарства.

Другі падсудны быў больш «буйной птушкай». Па-першае, родная сястра 40-гадовага Фёдара Аляксандравіча Ермаловіча была выслана як кулачка. Па-другое, у 1931, 1932 і 1933 гадах ён абкладаўся цвёрдым заданнем. «Цвёрдазаданцы» былі асобнай групай сярод аднаасобнікаў (небяспечна блізкай да катэгорыі «кулакоў») у пачатку 1930-х гадоў: гэтым параўнальна заможным сялянам даваліся вялікія пасяўныя планы і заданні па дзяржпастаўках.

Фёдар Ермаловіч быў пісьменным, беспартыйным, несудзімым, жанатым беларусам, меў трох утрыманцаў. Ваеннаабавязаны, радавы, у Чырвонай Арміі ён служыў 2 гады, у царскай арміі служыў з 1915 па 1917 год. У 1935 годзе заплаціў падатку 785 рублёў. «У час азімага сева 1935 года будучы старшым на дзесяцідворні ў засценку Трасцянец пры давядзенні пасяўнога плана адмовіўся падпісаць акт на атрыманне зямлі, а на яго гледзячы адмовіліся прыняць план пасева і ўсе астатнія аднаасобнікі ў ліку 17 двароў». «Суд устанавіў, што адказ 17 двароў ад пасева толькі з той прычыны, што Ярмаловіч паўліяў сваім аўтарытэтам на ўсіх астатніх 17 двароў, якія адмовіліся ад сева» (асаблівасці правапісу арыгінала часткова захаваны). Фёдар Ермаловіч быў асуджаны да турэмнага зняволення з адбыццём у агульных месцах зняволення тэрмінам 3 гады. Яго ўзялі пад варту ў зале суда.

Аднак асуджаны абскардзіў прысуд. 13 снежня 1935 года касацыйная калегія Вярхоўнага суда БССР у складзе старшыні Радзівон і членаў Табачнікавай і Шмідт па касацыйнай скарзе перагледзела справу №21903/69 па абвінавачанні Фёдара Ермаловіча і вынесла азначэнне. Вярхоўны суд прызнаў кваліфікацыю дзеянняў Ермаловіча па частцы 2 артыкула 94 правільнай (не выканаў даведзены план азімага пасеву), але Ермаловіч не мог несці крымінальную адказнасць за дзеянні іншых асоб, якія ўваходзілі ў яго дзесяцідворку. Суд пастанавіў «меру крымінальнага пакарання Ермаловічу замяніць адным годам прымусовых работ у КМР [калоніі масавых работ], вызваліўшы яго з-пад варты».

13 ліпеня 1936 года суддзя суда 3 участку Менска Манько «знайшоў, што касацыйная калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР пры вынясенні свайго азначэння ад 13 снежня 1935 года не залічыла асуджанаму Ермаловічу Фёдару папярэдняга ўтрымання пад вартай» з 5 лістапада па 17 снежня 1935 года. Пасля залічэння аднаго дня ўтрымання пад вартай за тры дні папраўча-працоўных работ канчатковай мерай пакарання для Ермаловіча былі 8 месяцаў і 4 дні папраўча-працоўных работ.

## Новы прыгон

У 1930-я гады ў СССР была створана шырокая сістэма не толькі грашовых падаткаў, але і натуральных павіннасцяў для сялян, прычым выконваць павіннасці мусілі як калгаснікі, так і аднаасобнікі. Для калгаснікаў былі прадугледжаны некаторыя палёгкі, затое для іх існаваў дадатковы абавязак адпрацаваць пэўную колькасць працадзён у калгасе. Павіннасці — архаічная форма эксплуатацыі сялян, іх небеспадстаўна параўноўваюць з павіннасцямі пры прыгонным праве.

Існавалі гужавая (пераважна вываз лесу з лесараспрацовак) і дарожная (удзел у будаўніцтве дарог) павіннасці, адпрацовачная павіннасць у торфаздабыўнай прамысловасці, разнастайныя натуральныя «аброкі». Натуральна-прадуктовыя павіннасці былі ўведзеныя ў 1933 годзе ў форме абавязковых паставак дзяржаве прадуктаў (не толькі харчовых), якія выраблялiся ў сялянскай гаспадарцы.

Парадак і нормы абавязковай здачы пшаніцы, жыта, аўса, проса, грэчкі, бабовых і (для некаторых рэгіёнаў) кукурузы рэгуляваліся супольнай пастановай СНК СССР і ЦК УКП(б) ад 19 студзеня 1933 года «Аб абавязковай пастаўцы зерня дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі». Аб'ёмы пастаўкі зерня вылічваліся, сыходзячы з плошчы, запланаванай для пасеву той ці іншай культуры.

Планы пасеву для аднаасобнікаў вызначаліся, як можна здагадацца, не самімі аднаасобнікамі, а сельсаветамі. Сельсаветы ж усталёўвалі і абавязальніцтвы па здачы зерня для кожнай аднаасобнай гаспадаркі. Норма здачы зерня з гектара для аднаасобнікаў была на 5–10 працэнтаў вышэйшай за норму для калгасаў (для БССР норма для калгасаў складала 0,8 цэнтнера з гектара). Звыш таго, «для забеспячэння хлебам па цвёрдых дзяржаўных цэнах сельскіх настаўнікаў, аграномаў і медработнікаў», былі ўсталяваны абавязковыя налічэнні ў памеры 2 працэнты ад сумы абавязальніцтваў па здачы зерня дзяржаве.

Пастанова ад 19 студзеня 1933 года прадпісвала аддаваць аднаасобныя гаспадаркі, якія не выканалі ў тэрмін сваіх абавязальніцтваў па здачы зерня дзяржаве, пад суд паводле арт. 61 Крымінальнага кодэкса РСФСР і аналагічных артыкулах КК іншых рэспублік (для БССР такім артыкулам быў арт. 94). Як правіла, судзілі кіраўніка гаспадаркі, якім лічыўся старэйшы працаздольны мужчына. Жанчыны траплялі пад суд у выпадку адсутнасці ў гаспадарцы дарослых мужчын (як правіла, гэта былі ўдовы і разведзеныя).

Як бачым, судовыя дакументы паказваюць супраціў сялян-аднаасобнікаў сталінскай сістэме. Складана меркаваць, што паслужыла непасрэднай нагодай для сялянскага бунту ў засценку Трасцянец. Магчыма, сельсавет рэзка павялічыў план пасяўных плошчаў, каб спагнаць з сялян больш зерня. Магчыма, сялян абурыла тое, што ў апошні раз іх абадралі як ліпку і пакінулі ім меншую частку ўраджаю (тут варта звярнуць увагу на вялікія памеры грашовых падаткаў, якія заплацілі ў 1935 годзе Фёдар Ермаловіч і Канстанцін Ляшкевіч).

Але, хутчэй за ўсё, сяляне ўсё больш карысталіся блізасцю да сталіцы рэспублікі і працавалі ці падпрацоўвалі ў горадзе (напрыклад, як рамізнікі ці гандляры), а таму не маглі засяваць такія самыя плошчы, як раней. Як піша амерыканская даследчыца Шэйла Фіцпатрык у кнізе «Сталінскія сяляне», адмова сеяць была шырока распаўсюджанай сярод аднаасобнікаў па ўсім СССР.

**Працяг будзе**



1930-я гады, сельскагаспадарчыя працы



Раскулачванне сялян



Сяляне здаюць хлеб дзяржаве



Жаўнер КАП назірае за тэрыторыяй БССР, 1930-я гады



Стражніца КАП. Заходняя Беларусь



Затрыманне дыверсанта на рыжскай мяжы

# КАП. Выведнікі на мяжы цывілізацый



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас працы над альбомам «Мяжа была пад Мінскам 1921–1941 гг.» мне давялося наведаць вялікую колькасць месцаў, дзе ў міжваенны час знаходзіліся стражніцы польскага Корпуса аховы памежжа (КАП).**

У адным з будынкаў, які захаваўся да нашых дзён і дзе па сёння жывуць людзі, мяне чакаў сюрпрыз. Сярод вялікай колькасці розных рэчаў «даваеннага паходжання», якія гаспадары лічылі смеццем, была і невялікая кніжачка «Вайсковы шпіянаж», выдадзеная пад рэдакцыяй Язэпа Фядунішына ў Львове ў 1924 годзе. Гэта быў падручнік, якім карысталіся польскія памежныя выведнікі ў міжваенны час.

Як жа выглядала праца выведнікаў КАП у 1920–1930-я гады і з чым яны сутыкаліся падчас сваёй службы на «рыжскім кардоне»?

## Новая служба

Значную частку выведавальных і контрвыведавальных задач у памежнай з СССР зоне 1 лістапада 1924 года Другі аддзел Генштаба Войска Польскага і другія аддзелы камандавання карпусных акруг III і IX перадалі ў распараджэнне Корпуса аховы памежжа. З гэтага моманту менавіта польскія памежнікі павінны былі высочваць варожую агентуру на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, а таксама праводзіць выведку на сумежных з Польшчай тэрыторыях БССР і УССР. Ужо 3 лютага 1925 года быў зацверджаны праект арганізацыі выведкі КАП. Яе структура складалася з самастойнага выведвальнага аддзела пры Штабе Корпуса аховы памежжа, а таксама афіцэраў-выведнікаў пры штабах брыгад і камандаванні батальёнаў КАП.

На працягу 1927–1931 гадоў польская выведка нармалізавала працу на ўсходнім кірунку. Асаблівую ўвагу надавалі агентам Камінтэрну і ДПУ, якія дзейнічалі «на крэсах», а таксама вывучэнню вайскова-палітычнай сітуацыі ў БССР. Так, летам 1929 года камандзір штаба 2-й брыгады КАП маёр Крамарчык даслаў у Экспазітуру №1 Другога аддзела Генштаба Польшчы ў Вільні службовую нататку, у якой падрабязна апісвалася не толькі дыслакацыя савецкіх памежных частак, але і сітуацыя ў Мінску.

«У Цімкавічах знаходзіцца камандаванне 17-га памежнага атрада. Штаб размяшчаецца ў былым царкоўным будынку. Начальнікам 17 ПА з'яўляецца Бушман, яго памочнік па палітычнай частцы Паўлаў. У Сакрэтна-аператыўнай частцы (САЧ) працуюць Быстроў і Яваройскі. У Капылі размешчаная апергрупа 17 ПА ў колькасці 15 чалавек. Яе камандзіра завуць Скрыпкоў. [...] Аддзел міліцыі знаходзіцца ў РВК. Прозвішча начальніка міліцыі Галубец. [...] На сумежнай тэрыторыі адзначаюцца масавыя арышты насельніцтва памежнай паласы. Людзей арыштоўвае памежная ахова і абвінавачвае ў нелегальных кантактах з Польшчай ці ў занятках кантрабанднай дзейнасцю. Гаўптвахта 17 ПА была настолькі перапоўненая, што людзей трымалі ў ёўнях. [...] У турме АДПУ ў Мінску знаходзіцца Шчапоццеў, былы чалец акруговага суда ў Мінску, якога абвінавачваюць у контррэвалюцыйнай агітацыі; Капелан з Мінска — за кантрабанду; Рудэльман з Мінска — за супрацоў уладзе; Чартовіч з Маладзечна — нелегальны пераход мяжы; Станіслаў Сабалеўскі з вёскі Дзяўгі, гміна Рубяжэвічы — за кантрабанду; Некрач з Мікуліч, гміна Рубяжэвічы — за кантрабанду; Міклашэўскі з СССР — за шпіянаж; Казлоўскі з гміны Ракаў — за шпіянаж; Наркевіч з СССР — за шпіянаж; Раманчык з вёскі Крапіўнікі, гміна Ракаў — за шпіянаж», — гаварылася ў дакуменце.

Звесткі, згаданыя ў нататцы, капаўцы атрымалі ад перабежчыка з БССР, а таксама ад выведнікаў, якія працавалі ў Саўдэпіі. У 1933–1934 гадах быў ліквідаваны Самастойны інфармацыйны аддзел Корпуса аховы памежжа, а яго месца заняло Кіраўніцтва выведкі КАП,





якому былі перададзеныя Экспазітура №1 у Вільні (мела свае прадстаўніцтвы ў Глыбокім, Вілейцы, Стоўбцах, Лунінцы, Сувалках) і Экспазітура №5 у Львове. Акрамя гэтага ў Берасці-на-Бугу існавала Экспазітура №6, якая таксама сачыла за дзейнасцю савецкіх агентаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

## «Слухалі» тэлефоны...

Вялікую ўвагу выведнікі КАП надавалі праслухоўванню міжнародных тэлефонных ліній, якія праходзілі праз камутатар у Стоўбцах. Асаблівa ўважліва адсочваліся размовы савецкіх дыпламатаў з абанентамі ў СССР.

«У прыватных размовах, якія праводзяць савецкія дыпламатычныя чыноўнікі, часта чутная прыкрасць і паўтараецца слова «інтрыга». Некалькі разоў саўдэпаўцы, якія знаходзяцца за мяжой, скардзіліся, што нехта, карыстаючыся іх адсутнасцю ў краіне, «падклаў ім свінню». Часам, пасля другой гадзіны ўначы, шляхам індукцыі было чуваць размовы па тэлефоне на тэрыторыі СССР, аднак зразумець словы было цяжка. Гэтыя размовы адбываліся паміж Масквой і гарадамі Мінск, Смаленск, Калуга, Кіеў. [...] Найбольш размоў па пытаннях гандлю можна было пачуць на лініі Масква — Лондан, дзе знаходзіцца некалькі савецкіх камісій па экспарце і імпарце. Між іншым, у Лондане ёсць камісія пад назвай «Танкаімпарт». З гэтых размоў вынікала, што: паміж партамі Англіі і Ленінграда курсавалі савецкія і зафрахтаваныя СССР параходы. З ліку савецкіх параходаў заўважаныя: «Дзяржынскі», «Бэла Кун», «Кааперацыя» і «Карл Лібкнехт». Часцей за ўсё курсаваў «Дзяржынскі». У Лондане знаходзілася асобная камісія па справах гандлю з Далёкім Усходам. [...] Два разы на дзень перадаваліся інфармацыйныя паведамленні для прэсы (апоўдні і падвечар — І.М.). Часцей інфармацыйныя паведамленні дасылалі: у «Известия» — Кармэн з Мадрыда, у «Праўду» — Кальцоў з Барселоны, у «Камсамольскую праўду» — Кальцоў з Барселоны і Валенсіі», — адзначалася ў інфармацыйным паведамленні намесніка кіраўніка выведкі КАП маёра Яна Гурбскага ў студзені 1937 года.

## ...і лавілі нелегальных «назіральнікаў»

Контрвыведнікі КАП сачылі за распаўсюдам інфармацыі пра вайсковыя манеўры на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Толькі ў 1935 годзе было затрымана 67 чалавек, частка з якіх была абвінавачана ў шпіянажы. Сярод іх аказалася жанчына, якую падазравалі ў зборы выведвальнай інфармацыі пра дзейнасць брыгады КАП «Вільня», а таксама жыхар Львова, пры якім былі знойдзеныя мапы і планы гарнізонаў Войска Польскага. У наступным годзе ў раёнах вучэнняў КАП былі затрыманыя 18 чалавек, сярод якіх было некалькі агентаў савецкіх спецслужбаў. У 1937 годзе побач з летнімі лагерамі батальёна КАП «Сноў» жандармерыя затрымала невядомага, пры якім быў знойдзены фотаапарат. Тады ж у раёне канцэнтрацыі палка КАП «Валожын» у рукі памежнікаў трапіў польскі жаўнер, які аказаўся дэзерцірам з 83-га палка палескіх стралкоў у Кобрыне. Хлопец збіраўся збегчы ў БССР.

У справаздачы, якую кіраўнік выведкі КАП маёр Ян Гурбскі склаў пасля пачатку Другой сусветнай вайны (у 1940 годзе), адзначалася, што ў 1935 годзе тактыка дзейнасці польскай памежнай выведкі на сумежнай тэрыторыі (у тым ліку і БССР — І.М.) змянілася.

«Я пачаў разумець, што адпраўка адзіночных агентаў не дасягае пастаўленай мэты. Было вырашана працаваць групамі агентаў, ад 3 да 12, смелых, добра і выдатна валодаючых зброяй, часта са службовымі сабакамі, якія спецыяльна навучаны атакаваць людзей па сігнале і без брэху. Такім чынам, група добра ўзброеных людзей, якае мае нажніцы да рэзання дроту, фотаапараты, спецыяльны абутак для перасячэння баранаванай паласы, гумавыя лодкі, была больш паспяховая. Правядзенне аперацый на перадполлі супраць акрэсленага аб'екта ці чалавека стала ўдавацца, і мы пачалі працаваць з меншымі стратамі, а агенты пачалі адчуваць сябе больш упэўнена», — адзначаў польскі афіцэр.

Такім спецгрупам удалося здабыць ручны кулямёт Дзегцярова разам з поўным боекамплектам (адваочна, зброю захапілі ў савецкага памежнага нарада. — І.М.); шыфры афіцэрскай школы РСЧА у Мінску; чыгуначныя інструкцыі на выпадак мабілізацыі. Але найбольшы поспех — здабыццё дэталёвых звестак аб арганізацыі савецкай супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны ў раёне Мінска і матэрыялаў, звязаных з доўгатэрміновымі агнявымі кропкамі на савецка-польскай мяжы. Пры гэтым польскія выведнікі ўзялі пробы бетону і атрымалі пэўную дакументацыю памежных ДАКаў.

Непасрэдна перад пачаткам Другой сусветнай вайны агентурная сетка КАП была падзеленая на тры групы: сігнальную, аператыўную і стратэгічную. Менавіта ад памежных агентаў прыходзіла інфармацыя аб канцэнтрацыі савецкіх войскаў побач з кардонам, а таксама — пра парушэнне мяжы савецкімі дыверсійнымі групамі напярэдадні 17 верасня 1939 года.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Штотыдзень мы атрымліваем шмат электронных і папяровых лістоў ад нашых чытачоў. Перыядычна мы будзем вас знаёміць з некаторымі з іх.**

### «Законы не з'яўляюцца абавязковымі для выканання»

У «Новым Часе» №47 (561) ад 15 снежня 2017 года прачытаў спавешчанне «Парушэнняў няма». У ім даводзіцца інфармацыя аб тым, што «брэсцкія журналісты Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава прайшлі ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі, каб абскардзіць дзеянні праваахоўнікаў», але «не дабіліся праўды».

І гэта зусім не дзіўна, бо створаная ў краіне праваахоўна-судовая сістэма не прадугледжвае захадаў, якія б прымушалі чыноўнікаў успрымаць існуючыя заканадаўчыя акты ў якасці Закону. Для чыноўнікаў усіх узроўняў законы Рэспублікі Беларусь не з'яўляюцца абавязковымі для выканання. Яны могуць іх ігнараваць, апашляць, змяняць, падтасоўваць пад свой капыл ці наогул падмяняць паняццямі, не маючымі нічога агульнага з юрыспрудэнцыяй — і не несучы пры гэтым абсалютна ніякай адказнасці. Прычым, назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя салідарнасці і падтрымкі вышэйстаячымі чыноўнікамі правапарушэнняў чыноўнікаў ніжэйшых узроўняў.

Менавіта таму ў артыкуле «Парушэнняў няма» вельмі слушна адзначана, каб беларусы масава пісалі скаргі, калі нашы правы парушаюцца уладамі. «Рана ці позна гэта дасць вынік», — распавеў Алесь Ляўчук. Я асабіста маю незлічоную колькасць такіх дакументаў, якія сведчаць аб катастрафічным стане павагі да законнасці ў Рэспубліцы Беларусь з боку чыноўнікаў, суддзяў, пракурораў, службовых асоб адміністрацыі прэзідэнта. Прычым іх адказы занатаваны на паперы дзяржаўнага ўзору, пад дзяржаўным гербам, з пазначанымі пасадамі, прозвішчамі і асабістым подпісам. Вось толькі здзіўляе ўпэўненасць усіх гэтых асоб у беспакаранасці сваіх незаконных дзеянняў у адносінах да грамадзян, чые правы парушаны.

Але з якім імпэтам тыя ж чыноўнікі выкарыстоўваюць напоўніцу дзеючае заканадаўства, і нават больш, калі трэба пакараць грамадзяніна! Тут ужо не існуе ніякіх перашкод для абгрунтавання абвінавачвання, нават надуманага, штучна створанага ўладнымі структурамі.

Але накіраванне скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН, што збіраецца зрабіць А. Ляўчук і М. Харытонава, не пашкодзіць, хоць высновы гэтага Камітэта на беларускі рэжым не дзейнічаюць.

У выпадках, калі пад націскам неабвяргальных доказаў і сведчанняў, улады вымушаны часткова прызнаць свае парушэнні, дасланыя адпаведныя адказы, дык з іх аналізу можна зрабіць наступныя высновы.

Па-першае, чыноўніцкія парушальнікі правоў грамадзян не нясуць за гэта ніякай адказнасці.

Па-другое, прынесеныя «выбачэнні» за недастаткова прафесійныя дзеянні канкрэтных службовых асоб не аднаўляюць дзелавую рэпутацыю, знявечаныя працоўныя і грамадзянскія правы людзей.

Па-трэцяе, меры, прынятыя за дапушчаныя чыноўніцкія парушэнні, не адпавядаюць здзейсненым парушэнням правоў грамадзян і ўзнікшымі ў сувязі з імі наступствамі.

**Эльяш Банель, інжынер, г. Мінск**

### «Застаецца толькі здача іншай дзяржаве»

З цікавасцю прачытаў удумлівы і лагічна пабудаваны аналітычны артыкул Валера Карбалевіча «Ці ёсць у Беларусі варыянты змены ўлады» (№38). Дарэчы, згаданыя вышэй прыкметы якраз і вылучаюць гэтага аўтара. І гэтым разам яго назіранні і высновы вельмі трапныя.

Так, Лукашэнка стаў закладнікам уласнай блізарукай і непрафесійнай палітыкі, у наўпроставым, не пераносным сэнсе. Гэта стала відавочным пасля роспачнай, прадыктаванай патрэбай моманту элімінацыі яго ных найбольш верагодных патэнцыяльных супернікаў у маючых адбыцца на той час неўзабаве прэзідэнцкіх выбарах. З 1999 года шляху назад ужо не было. І гэта трагедыя для краіны. Тут я цалкам пагаджуся з высновамі сп. Карбалевіча.

Але шаноўны аўтар або не ўлічыў, альбо не пажадаў патрэбным прыгадаць яшчэ адзін варыянт змены ўлады на Беларусі. Больш чым дваццацігадовая кансервацыя асноўных элементаў савецкай палітычнай і эканамічнай мадэлі можа ўрэшце прывесці да такога інтэгральнага крызісу і гаспадарчага тупіку, пры якіх існуючая ў Беларусі сістэма пачне самаразбурацца, а кіраванне ёю аб'ектыўна і самачынна выйдзе з-пад кантролю аўтарытарнага цэнтра.

У такіх умовах адзіным паратункам для асобы «з абвостраным пачуццём небяспекі» застаецца «здача» дзяржавы іншай краіне. У такім выпадку ўсе праблемы пераходзяць да новага ўладара, асабістая адказнасць знікае, а бяспека гарантуецца, як гэта сталася раней з некаторымі дзеячамі, якія знаходзілі прытулак у іншых краінах.

**Юры Вашкевіч, г. Мінск**

# З верай у цуд

Алесь БЫЧКОЎСКІ

**Кнігі бываюць двух тыпаў: добрыя і дрэнныя. І як выключэнне з правілаў існуе трэці тып — гэта калі раскрыеш том, а там цэлы сусвет. Дык вось, «Планктон» Міхася Зізюка (Мінск, Галіяфы, 2017) — якраз падобнае прыемнае выключэнне.**




У кнізе — сусвет партрэтаў сучаснага беларуса, галерэя вобразаў, яны паўстаюць са старонак і ідуць, ідуць, ідуць шыхтом… Плачуць і смяюцца, радуюцца і злуюць, кахаюць і ненавідзяць, і часцей за ўсё енчаць ад пакутаў. Бо пакутаваць — гэта нацыянальная рыса беларуса. Перад чытачом паўстаюць звычайныя чалавечыя гісторыі здрады і кахання, пошуку шчасця і расчаравання, усё вакол гэтак па-чалавечы, што нездарма ў першай аповесці зборніка ўяўна прагляда ецца пошук Бога.

Шукаць Бога — гэтаксама нашае нацыянальнае, і героі ў свядомым і несвядомым пошуку часцяком спыняюцца перад выбарам, ад якога залежыць не толькі вынік пошуку, але і тое, ці застануцца яны людзьмі.

Героі кнігі — звычайныя людзі. Яны не мараць пра тое, каб ратаваць свет, не маюць дзяржаўных узнагарод, не атрымліваюць ганаровых грамат, іх здымкі не вісяць на дошках гонару. Іх жыццё праўдзівае, кожны па-свойму ўспрымае свет. Але яны здольныя на значныя ўчынкі, здольныя перайначыць свет на ўласны густ і выйсці пераможцам.

Праз прызму твораў праглядаецца аналіз сённяшняга жыцця, часам можна і натхніцца, і схамянуцца. Калі разглядаць тэму пакутніцтва, то часам яно крыецца ва ўнутраным матыве шукаць справядлівасць — і нідзе яе не знаходзіць («Сцяна»). Пракаветныя пакуты заўжды ёсць у адносінах чалавека да ўласнага лёсу. Хтосьці скараецца, а хтосьці змагаецца з конам — і, пэўна, выйграе, трапляючы часам з агню ў полымя, чытай: у не меней складаную сітуацыю («Кароль Капайла і яго атачэнне»). Пакутніцтва, між іншым, ёсць і ў выніках стаўлення чалавека да прыроды («Мурзікава дарога»). І выпадае ж часам так, што ў добрага чалавека ўсе беды і суцэльнае гора хаваюцца выключна ў адсутнасці кахання ў жыцці. Варта каханню ўзнікнуць, як свет калі не заззяе ружовым святлом, дык адмыслова напоўніцца шчасцем («Дождж на Іллю»).

З чытацкага гледзішча заўвага бадай адна: каркас аповесцяў мае лінейную структуру — усюды. Нават там-сям ход сюжэту можа падацца ў чымсьці прадказальным. Але гэта не загана, а аўтарская манера напісання. Што не спадабалася — «Хата з аканіцамі». Але тут ужо мая цалкам суб'ектыўная пазіцыя чытача. Аповесць наўпрост прасякнутая палескім забабоннем. Каб яе зразумець, трэба пажыць на Палессі, і пры жаданні набрыняць тамтэйшым акультызмам (ну, альбо не набрыняць). Але ж, даравальна аўтару, герой аповесці ў пошуку паратунку звяртаецца да Бога, бо толькі Госпад можа разбурыць кайданы помраку.

Здаецца, няпроста кніжка выйшла да 50-годдзя аўтара. Тут вынік творчасці Міхася Зізюка і зацемкі на далейшае. Нельга не пагадніцца з прадмовай Андрэя Федарэнкі: у літаратуру сапраўды прыйшоў цікавы пісьменнік, якому ёсць што сказаць, у якога ўласная пазіцыя і бачанне жыцця. Дарэчы, з займальнымі сюжэтамі і надзвычай прыстойнай мовай. Вельмі станоўчы момант: аўтар — вялікі аматар прыроды. Недзе даводзілася чытаць, што ў сучаснай літаратуры апісанняў прыроды бракуе. Міхась Зізюк шчодра кампенсуе гэтую хібу ўдалымі нарысамі.

Калі казаць пра мэтавую чытацкую аўдыторыю, то гэтая кніга — на любы густ. Аматары прыроды знойдуць тут сваё, прыгодаў — сваё. А вось, напрыклад, падлеткам можна параіць аповесць «Мурзікава дарога». Увогуле, зборнік атрымаўся шматгранным, і ў тым яго паэтычнасць. Кніга мяне як чытача парадавала і захапіла. Здаецца, чытаеш — і недзе бачыцам глядзіш у люстэрка, пазнаеш сябе і блізкіх.

Галоўная думка кнігі: ці ёсць у беларусаў будучыня? Па ўсім вынікае, ёсць. Але якой якасці — залежыць ад кожнага паасобку, і самае важнае тут — не губляць надзею. Аўтар імкнецца ўзбадзёрыць чытача, надаць аптымізму. Здаецца, па мерках сённяшняга меркантыльнага часу эгаістаў, няверʼя і амаль усеагульнай распусты, у творах часам прысутнічае пэўны фантастычны складнік. І гэту фантастыку па-іншаму мянуюць верай у цуд. Тое, чаго нашаму чалавеку сёння так бракуе. І ўслед за аўтарам хочацца натхніцца, набрацца няўтрымнага аптымізму, веры і надзеі, бо заўсёды так: «Зіма зменіцца вясною. Ізноў прыйдзе лета, запяе рознымі галасамі, закувае зязюля, каб засведчыць: жыццё ідзе, жыццё працягваецца».

Новы час
падпісны індэкс
63279
Падпішыся сам
і падпішы бацькоў!

Новы час
!
ПАДТРЫМАЙ
"НОВЫ ЧАС" —
НАБУДЗЬ ГАЗЕТУ
Ў ШАПІКУ!

Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №122

Падпісана да друку 02.02.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.